ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# КААПЭРАЦЫЯ БССР

ЧАСОПІСЬ БЕЛКААПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ
ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЁН

20 жніўня—10 верасьня

№ 8

МЕНСК 1930

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



Галоўлітбел № 2986. Заказ № 3516—1200 экз. Друкарня „Палесдрук“, Гомель

**П. Бурачэўскі**

# Ліквідаваць прарывы, выканаць баявое заданьне па мабілізацыі сродкаў насельніцтва

Баявое заданьне партыі па рабочаму забесьпячэньню, падвышэньню рэальнага ўзроўню зарплаты, паляпшэньню абслугоўваньня працоўнага спажыўца гораду і вёскі патрабуе рашучых мерапрыемстваў і бальшавіцкіх тэмпаў у працы спажыўкаапэрацыі па выкананьню ўскладзеных на яе задач.

Выкананьне гэтага зьвязана з неабходнасьцю разьвіцьця харчовай базы, павялічэньня харчовых рэсурсаў, стварэньня адпаведных фондаў прамтавараў і с.-г. прадуктаў, пашырэньня гандлёвай сеткі, пашырэньня і паляпшэньня грамадзкага харчаваньня, разгортваньня культбытавога абслугоўваньня і г. д., што патрабуе падвышаных капіталаўкладаньняў.

Тavaразварот спажыўкаапэрацыі, які ўзрастае штогодна па БССР у сярэднім блізка на 60 проц. і які ў далейшым павінен будзе ўзрастаць у адпаведнасьці з ростам запатрабаваньняў спажыўца, забясьпечваўся часткова за лік уласных сродкаў спажыўсыстэмы і, галоўным чынам, за лік дзяржаўных банкаўскіх і таварных крэдытаў.

Далейшае павялічэньне крэдытаў немагчыма. Дзяржаўныя сродкі, якія знаходзяцца ў каапэрацыйным таваразвароце, павінны быць вызвалены на запатрабаваньні індустрыялізацыі краіны для забесьпячэньня выкананьня праграмы па разьвіцьцю прамысловасьці, у чым каапэрацыя павінна прыняць непасрэдны і актыўны ўдзел, бо апошняя толькі ў выніку разьвіцьця прамысловасьці зможа атрымаць патрэбную колькасьць яе прадукцыі (прамтавараў) для задавальненьня запатрабаваньняў спажыўца.

Неабходныя сродкі для забесьпячэньня разьвіцьця каапэрацыі і нармальнай яе працы па абслугоўваньню спажыўца павінны быць атрыманы шляхам мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў і сродкаў насельніцтва.

Выходзячы з агульных задач, якія стаяць перад спажыўкаапэрацыяй, і яе запатрабаваньняў, зьвязаных з задавальненьнем спажыўца на 1929-30 г., былі вызначаны кантрольныя лічбы па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, згодна якіх павінна было быць сабрана па ўсёй спажыўсыстэме БССР паёў на суму 8.290.645 рублёў. Ня гледзячы на рэальнасьць адзначаных кантрольных лічбаў, фактычныя вынікі ўжо за першыя тры кварталы (кастрычнік—чэрвень) характарызавалі пагрозу зрыву іх выкананьня. Гадавое заданьне па паёх на 1/VIII-30 г. было выканана толькі на 63,4 проц., з якіх па цэрабкопах—на 51,2 проц. і па спажыўтаварыствах—на 70,2%. Пры гэтым асобныя арганізацыі ігнаравалі дырэктывы аб мабілізацыі сродкаў і ня выканалі практычных паказаньняў аб забесьпячэньні выкананьня плянавых заданьняў. Праца праходзіла самацёкам. Асабліва вылучаліся нізкімі паказальнікамі спажыўтаварыствы б. Мазырскай акругі, якія выканалі 55,1 проц. заданьня, Бабруйскай—63,6 проц., Менскай—66,8 проц., і цэрабкопы: Рэчыцкі—30,8 проц. Гомельскі—33,3 проц. і Аршанскі—39,1 проц.

У дадатак да дырэктыў, якія даваліся на працягу ўсяго часу па забесьпячэньню выкананьня кан-

трольных лічбаў, пры дачы заданьня на чацьвёрты квартал (ліпеньверасень), прапанована было ўсім мясцовым арганізацыям стварыць рашучы пералом у мабілізацыі сродкаў насельніцтва па спажыўкаапэрацыі і абавязкова забясьпечыць сваячасовае і поўнае выкананьне гадавых кантрольных лічбаў да 1/X-30 г. Аднак, шэрагам арганізацый дырэктывы і заданьні партыйных, урадовых і вышэйстаячых каапэрацыйных органаў таксама выконваюцца вельмі дрэнна, належнага цераломy ня створана. Кантрольныя лічбы злачынна зрываюцца. Побач з дасягнутымі посьпехамі па некаторых арганізацыях, якія, праводзячы сваю працу на падставе дырэктыў і практычных паказаньняў, выканалі і перавыканалі гадавыя заданьні, частка арганізацый працу і выкананьне заданьняў зусім правалілі. Па вестках, атрыманых ад 70 проц. усіх арганізацый на 20/IX-30 г., агульнае гадавое заданьне па паянакапленьню выканана на 79,4 проц. (па ЦРК—на 66 проц., па райспажыўтаварыствах—на 85 проц.). З арганізацый, якія прадставілі поўнасьцю веcткі на 20/IX-30 г., каля 20 проц. ад усіх арганізацый па БССР перавыканалі гадавыя кантрольныя лічбы і каля 10 проц. выканалі толькі блізка 50 проц. гадавых кантрольных лічбаў.

Ня лепш справа стаіць і з выкананьнем асобнага заданьня па збору 5 мільёнаў рублёў у працягу верасьня месяца мэтавых авансаў пад тавары, якіх да 27/IX паступіла толькі каля 20 проц.

Праўленьне Белкаапсаюзу зусім слушна вынесла пастанову аб спагнаньнях і аб скарачэньні лімітаў банкаўскага крэдыту ў адносінах да часткі арганізацый, якія ігнаравалі дырэктывы, ня выконвалі заданьняў і не прадставілі вестак у ўстаноўленыя тэрміны.

На 1/X-30 г. павінны быць поўнасьцю і ўсебакова падведзены вынікі працы і выкананьня заданьняў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва за 1929-30 год па ўсіх арганізацыях.

У адносінах да некаторых арганізацый, якія мелі дастаткова паказаньняў і папярэджаньняў і ня прынялі рашучых мер да ліквідацыі ў сябе прарываў, чым стварылі агульны прарыў па мабілізацыі сродкаў насельніцтва, павінны быць прыняты самыя жорсткія і сур'ёзныя меры. У далейшым ні ў аднэй арганізацыі не павінна мець месца ігнараваньня дырэктыў і заданьняў. У бягучым квартале (кастрычнік-сьнежань), згодна дадзеных арганізацыям кантрольных лічбаў, павінна быць сабрана на будаўніцтва па спажыўкаапэрацыі паёў, укладаў, авансаў і мэтавых узносаў усяго 7.900.000 рублёў. Гэтае заданьне, як мінімальнае, павінна быць на мясцох у парадку вызначэньня сустрэчных плянаў павялічана і, улічваючы прарыў да 1/X-30 году, абавязкова выканана.

На ліквідацыю прарываў і выкананьне заданьняў на кастрычнік—сьнежань павінен быць мабілізаваны ўвесь апарат каапарганізацый і каапактыву. Кантрольныя лічбы па арганізацыях павінны быць разьмеркаваны і даведзены да кожнага каапрадпрыемства ўпаасобку і работніка, з вызначэньнем адказных выканаўцаў. Праца павінна праводзіцца ў ударным парадку з шырокім разгортваньнем сацспаборніцтва паміж асобнымі каапарганізацыямі, прадпрыемствамі, работнікамі і органамі каапграмадзкасьці за дасягненьне хутчэйшага і лепшага выкананьня і перавыкананьня дырэктыў і заданьняў.

Неабходна, на падставе пастановы праўленьня БКС ад 25/VIII г. г., на мясцох стымуляваць лепшыя вынікі працы па мабілізацыі сродкаў насельніцтва шляхам устанаўленьня і выдачы прэмій каштоўнымі рэчамі асобным зборшчыкам, упаўнаважаным, членам каапбюро, членам крамкамісій, прыказчыкам, пайшчыкам актывістым і г. д., якія праявяць сябе па правядзеньні гэтай важнай справы.

Каапарганізацыі маюць магчымасьць выканаць дадзеныя ім заданьні па паёх за лік астаткаў запазычанасьці пайшчыкаў, якія ня выканалі яшчэ поўнасьцю сваіх абавязкаў па ўнясеньню дыфпаю, уключаючы надбаўку, згодна пастановы ЦК УсеКП(б) ад 15/V-30 г. Адначасова павінна быць шырока разгорнута каапэраваньне новых асноўных і другіх членаў сям'і, якія не зьяўляюцца яшчэ пайшчыкамі, з атрыманьнем ад іх уступных і паявых узносаў у адпаведнасьці з устаноўленым парадкам і разьмерам для паасобных сацыяльных груп насельніцтва. Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на праверку разьмеру ўстаноўленага паю ў сувязі са зьменамі па зарплаце і падатках. Ёсьць шэраг выпадкаў, калі пайшчыкі, ня гледзячы на павялічэньне іх зарплаты, у сувязі з чым павінен павялічвацца і дыфпай, фактычна гэтага ня робяць на працягу доўгага часу. Таксама бывае і з пайшчыкамі, якія аплачваюць дыфпай па адзнаках падатку. Пры ўступленьні некаторыя былі аслаблены ад падатку і залічаліся пайшчыкамі на ільготных умовах альбо каапэраваліся за рахунак ФКБ, а ў далейшым, як перайшоўшыя ў другія групы, павінны аплачваць падвышаны пай, чаго па асобных арганізаныях не рабілася. Усё гэта павінна быць безадкладна выпраўлена шляхам правядзеньня масавай праверкі.

Ня гледзячы на шэраг дырэктыў аб шырокім уцягненьні ў практычную працу па мабілізацыі сродкаў насельніцтва прафэсіянальных арганізацый і прафработнікаў, у асобных мясцох належнай ўвагі ня было зьвернута і патрэбнага садзейнічаньня і ўзьдзеяньня ня зроблена.

Таксама недастаткова была праверка ходу выкананьня дырэктыў і заданьняў з боку асобных мясцовых партарганізацый, што абавязкова павінна было быць забясьпечана.

Улічыўшы ўсе недахопы у працы па мабілізацыі сродкаў насельніцтва да 1/Х-30 году, безадкладна трэба стварыць рашучы перелом у гэтым напрамку з тым, каб даныя кантрольныя лічбы на кастрычнік-сьнежань былі выкананы абавязкова сваячасова і поўнасьцю.

**„Адна з самых важных заваёў калгаснага руху заключаецца ў тым, што ён ужо пасьпеў вылучыць тысячы арганізатараў і дзесяткі тысяч агітатараў калгаснае справы з саміх сялян“.**

**(Сталін).**

Максімчук

# Шырэй разгорнем падпіску на пазыку „Пяцігодка—у чатыры гады“

Вялікія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва ў галіне выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады ставяць перад намі вялізарныя задачы ў галіне выкананьня пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады“. Гэта вялікае заданьне, якое далі нам камуністычная партыя і савецкая ўлада, магчыма будзе выканаць толькі пры актыўным ўдзеле грамадзкасьці як гораду, так і вёскі, поўнай ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі і праяўленьні актыўнага ўдзелу як грамадзкай дапамогай, так і дапамогай з фінансавага боку.

XVI зьезд партыі прадэманстраваў перад намі вялізарныя дасягненьні ў выкананьні першага году пяцігадовага пляну. За першы год пяцігодкі намі зроблена па некаторых галінах то, што мы думалі зрабіць за два гады.

Усё гэта сьведыць аб тым, што пры яшчэ большым ўдзеле працоўных у галіне выкананьня пяцігодкі урок, заданы нам партыяй і савецкай уладай, будзе выкананы раней вызначанага тэрміну. У сучасны момант пад лёзунгам „Пяцігодка—у чатыры гады“ мы павінны правесьці шэраг мерапрыемстваў для рацыяналізацыі нашых фабрык, калгасаў, саўгасаў і іншых прадпрыемстваў і шляхам больш узмоцненай працы сацспаборніцтва і ўдарніцтва правесьці шэраг палепшаньняў ў працы.

Акрамя ўдзельнічаньня грамадзкасьці ў галінах культурнае працы, яшчэ патрабуецца дапамога з боку фінансавага, з боку папаўненьня дзяржбюджэту ўнутранымі грашовымі сродкамі.

Маючы ўпэўненасць у водгуку працоўных, улада адшукоўвае сродкі ўнутры савецкай дзяржавы шляхам пуску і распаўсюджваньня пазык. Зараз урадам выпушчана новая пазыка для папаўненьня сродкаў на сацыялістычнае будаўніцтва пад назвай: „Пяцігодка--у чатыры гады“.

Пазыка „Пяцігодка—у чатыры гады“ будзе распаўсюджана паміж рабочымі і служачымі гораду, сярод бядняцка-батрацкай і серадняцкай масы вёскі на льготных умовах.

Пазыка „Пяцігодка—у чатыры гады“ для большай выгоды насельніцтва аб'яднае некалькі абліґацый пазык, выпушчаных раней, і абмену на яе належаць першая, другая і трэцяя пазыкі „індустрыялізацыі краіны“ і пазыка „ўзмацненьня сельскае гаспадаркі“.

Распаўсюджваньне пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады“ знайшло бальшавіцкі водгук сярод большасьці насельніцтва, і ў некаторых месцах лічбы перавысілі вызначаныя, але ёсьць яшчэ і недахопы некаторых арганізацый (спаж. таварыстваў) у тым, што ня ўсе ахоплены падпіскай на пазыку. Для выпраўленьня гэтага патрэбна ўжыць усе спосабы, каб яшчэ больш праводзіць гутарку і растлумачэньне, каб грамадзкасьць дастаткова зразумела сутнасьць распаўсюджваньня пазыкі і ўдзельнічаньня ў яе распаўсюджваньні, з такім разьлікам, каб не сарваць тэрміну вылікаў з зарплаты і плянавасьці распаўсюджваньня.

Адзначаючы важнасьць распаўсюджваньня пазыкі „Пяцігодка—у чатыры гады“, працоўныя, калгасьнікі, саўгасьнікі і іншае насельніцтва павінны прыняць самы актыўны ўдзел як у падпісцы на пазыку, так і ў рэалізацыі яе сярод другіх.

Удзельнічаючы ў рэалізацыі пазыкі, мы гэтым самым паскараем тэмп выкананьня пяцігадовага пляну. Кожны год выкананьня пяцігодкі зьяўляецца магутным ударам па сусьветнай буржуазіі і па яе спачувальніках.

С. А.

## Пра хлебазагатоўчую кампанію 9130-31 г.

Барацьба навакол хлебазагатовак ва ўмовах нашага Саюзу кожны год мела яскрава акрэсьлены клясавы характар і ў кожным асобным выпадку вызначалася тымі канкрэтнымі ўмовамі, у якіх яна адбывалася, а ў сувязі з гэтым мела і тыя ці іншыя формы. Але, не зважаючы на гэта з пункту гледжаньня агульнапалітычнага характару функцый, што яна выконвала, гэтая барацьба за хлеб, нават і пры рознастайнасьці форм, якія прымала яна кожны год, тым ня менш мела заўсёды адзіны зьмест і зрэшты ўяўляла сабою барацьбу за сацыялізм.

«Здаецца, што гэта барацьба толькі за хлеб, на самай справе гэта барацьба за сацыялізм» (Ленін).

І менавіта з гэтае прычыны барацьба за хлеб носіць у нас асабліва абвостраны характар на кожным этапе нашага эканамічна-палітычнага разьвіцьця, бо па сутнасьці гэта барацьба паміж сабою двух укладаў нашае гаспадаркі: сацыялістычнага і капіталістычнага, пры няўхільна нарастаючай кожны год ролі першага з гэтых укладаў.

Пры пасьпяховым, па-бальшавіцку і бяз скрыўленьня клясавае лініі, выкананьні пляну хлебазагатовак будуць замацаваны існуючыя калгасы, створаны спрыяючыя ўмовы для ўздыму новае хвалі калектывізацыі, і гэтым самым нанесены новы магутны ўдар кулаку на вёсцы і нэпману-спэкулянту ў горадзе. І менавіта з гэтага пункту гледжаньня павінна праводзіцца хлебазагатоўчая кампанія гэтага году.

Але-ж з гэтае прычыны, ня гледзячы на цэлы шэраг аб'ектыўных меркаваньняў, што дазваляюць правесьці гэтую кампанію больш пасьпяхова і арганізавана ў вызначаныя тэрміны, яна па самаму характару свайму не зьяўляецца менш складанай і ў сувязі з гэтым патрабуе надзвычайна пільнае да сябе ўвагі з боку ўсіх хлебазагатоўчых арганізацый і іх апаратаў і ўсяе грамадзкасьці вёскі. Ня трэба забываць пра тое, што ад таго, як гэтыя органы і арганізацыі здолеюць арганізацыйна ахапіць самы працэс хлебазагатовак, наколькі здолеюць яны паставіць выкананьне пляну іх пад свой сыстэматычны і сталы нагляд, менавіта ад гэтага ў першую чаргу будуць залежаць кольласныя паказальнікі хлебазагатовак і пажаданая палітычная эфэктыўнасьць іх. А гэта апошняе, а менавіта: *неабходнасьць забесьпячэньня продажу дзяржаве максымальнае колькасьці хлебных лішкаў пры адначасовым захоўваньні палітычнае эфэктыўнасьці гэтае справы,* менавіта гэта становішча павінна быць кіруючым прынцыпам для ўсіх хлебазагатоўчых і маючых да гэтага непасрэднае дачыненьне іншых арганізацый ў іх практычнай працы.

Але для таго, каб магчыма было ажыцьцявіць гэтую задачу, ператварыць яе ў рэальнасьць, гэтыя арганізацыі перад усім павінны добра

ўявіць сабе палітычную значнасьць і палітычны сэнс новае хлебазагатоўчае кампаніі, якая праводзіцца ў гэтым годзе ў надзвычайна складаных умовах. А з гэтага пункту гледжаньня яны павінны захаваць клясавую лінію на вёсцы і выразнасьць у правядзеньні хлебазагатовак і не дапушчаць памылак.

Адным з сродкаў у дасягненьні адзначаных момантаў зьяўляецца неабходнасьць для ўсіх хлебазагатоўчых органаў і для ўсіх арганізацый на вёсцы добра ўлічыць вопыт хлебазагатовак мінулых гадоў з мэтаю вывучэньня ўсіх дадатных бакоў пры правядзеньні іх і недахопаў з тым, каб і ў гэтым годзе не дапушчаць іх. У гэтым сэнсе трэба скарыстаць вопыт асабліва апошняга (1929/30) году, мерапрыемствы і захады з боку партыі ў правядзеньні хлебазагатоўчае кампаніі.

Другім ня менш важным сродкам, які павінен прывесьці ўсё да тае-ж мэты, зьяўляецца неабходнасьць добра ўсьвядоміць своеасаблівасьць і спэцыфічнасьць тых канкрэтных абставін, у якіх павінна праводзіцца новая хлебазагатоўчая кампанія. І бясспрэчна, толькі ўлік двух гэтых момантаў можа забясьпечыць пасьпяховае выкананьне хлебазагатоўчага пляну гэтага году.

На самай справе ніхто ўжо цяпер ня можа адмаўляць таго, што хлебазагатоўчая кампанія мінулага году, ня гледзячы нават і на памылкі, што былі дапушчаны ў правядзеньні яе з боку паасобных хлебазагатоўчых і вясковых арганізацый (непадрыхтаванасьць ссыпных складаў, адсутнасьць рэглямэнтацыі ў паступленьні хлеба, непадрыхтаванасьць і недахоп апарату для вядзеньня чыста-тэхнічнай працы ў часе прыёму хлеба, несваячасовае давядзеньне пляну да вёскі і інш.), не зважаючы на гэтыя памылкі, гэтая кампанія тым ня менш ня толькі забясьпечыла дзяржаве асноўную масу таварнага хлеба, але і была разам з гэтым і буйнейшаю практыкаю клясавае барацьбы ў вёсцы. Ня трэба забываць, што гэтая кампанія зьявілася аднэю з галоўнейшых прычын, што абумовілі сабою паварот сялянства ў бок калектывізацыі. Вось чаму, да-рэчы сказаць, хлебазагатоўкі і гэтага году павінны праходзіць з пункту гледжаньня неабходнасьці замацаваньня існуючых і забясьпечаньня росту новых калгасаў, пры адначасовай барацьбе за ліквідацыю на гэтай аснове кулацтва як клясы.

Але тут жа трэба зазначыць, што гэтыя посьпехі хлебазагатоўчая кампанія мінулага году мела ня толькі таму, што для гэтага былі спрыяючыя знадворнага парадку ўмовы: падвышаны валавы збор ураджаю і ў сувязі з гэтым узрос шая таварнасьць усіх відаў збожжа. Бязумоўна, не. Гэтыя ўмовы ў лепшым выпадку стварылі толькі глебу для адзначанага посьпеху, тым часам як сам ён, гэты посьпех, быў дасягнуты партыяй шляхам умелага скарыстаньня ў інтарэсах хлебазагатовак усіх эканамічных рычагоў, правільнае пабудовы сыстэмы арганізацыйных мерапрыемстваў і правільнага правядзеньня клясавае лініі і палітыкі ў вёсцы. У гэтым палягаюць прычыны данага посьпеху, бо дзякуючы такому становішчу, дзякуючы такой палітыцы партыя здолела ўзьняць бядняцка-серадняцкія масы на рашучае наступленьне супроць кулацкіх пластоў вёскі за хлеб. У гэтым жа і палітычны ўрок хлебазагатовак мінулага году. Але пры гэтым ня трэба забывацца, што партыя дабілася гэтага ня шляхам адміністрацыйнага націску на бядняцка-серадняцкія масы, а шляхам шырокае растлумачальнае працы, шляхам мабілізацыі навакол хлебазагатовак усяе бядняцка-серадняцкае грамадзкасьці вёскі.

Зараз узьнікае пытаньне, ці патрэбна нам і ў гэтым годзе ўжываць мерапрыемствы і захады ў правядзеньні хлебазагатовак мінулага году за вылікам маючых месца арганізацыйна-палітычнага характару недахопаў, што ў гэтым годзе не-

абходна зьнішчыць і што ў асноўным вышэй ўжо адзначаны? На гэтае пытаньне трэба адказаць станоўча і нават неабходна падкрэсьліць, што ўжываць іх трэба і вось чаму.

Ніхто, бязумоўна, ня будзе адмаўляць таго, што, у параўнаньні з мінулым годам, у гэтым годзе мы маем яшчэ большыя ўмовы чыста надворнага характару, якія сваё канкрэтнае вызначэньне знаходзяць, па-першае, у пашырэньні пасяўных плошчаў у сувязі з калектывізацыяй і машынізацыяй сельскае гаспадаркі, па-другое, у добрым ураджаі па ўсяму амаль Саюзу, а ў сувязі з гэтым і ў падвышэньні валавога збору, гэта значыць, і таварнасьці збожжа.

Далей, ніхто ня можа адмаўляць і таго ўсім відавочнага факту, што канкрэтныя абставіны сацыяльна-клясавага зьместу, у якіх будзе праводзіцца новая хлебазагатоўчая кампанія, дзякуючы значнаму ўзросту калгасаў, камун, саўгасаў, зрэшты кантрактацыі і індывідуальных гаспадарак,—гэтыя абставіны, дзякуючы пададзеным момантам, якасна розьняцца ў гэтым годзе ад абставін мінулага году, бо паказваюць значны ўзрост сацыялістычнага сэктару с. гаспадаркі, што ня можа ня спрыяць пасьпяхоаму выкананьню хлебазагатоўчага пляну гэтага году.

Мы ня можам дапусьціць самацёку ў здачы хлеба нават і ў дачыненьні да калгасаў і тым больш да паасобных калгасьнікаў—гэта было-б памылкаю, бо нельга, бязумоўна, адмаўляць таго, што частка хлеба з калгасаў будзе паступаць дзяржаве ў парадку як-бы і самацёку. Гэта тая частка, якая прадугледжана як належачая абавязковай здачы згодна 22 пункту статуту і растлумачэньняў па гэтым пытаньні, што дадзены ў выглядзе пастаноў Калгасцэнтру і Наркамзему СССР. Так і думаюць адносна здачы хлеба калгасамі некаторыя працаўнікі, асабліва на мясцох. Але сапраўды справа зьяўляецца некалькі больш складанай, бо наша задача—ня толькі ў тым, каб калгасы здалі гэтую частку хлеба, але і ў тым, каб шляхам грамадзкага націску і растлумачальнае працы дабіцца таго, каб кожны калгасьнік, пасьля разьмеркаваньня ўраджаю ў калгасе, усе лішкі, што будуць у яго звыш яго ўласнага спажываньня, лішкі, якімі ён можа распараджацца па свайму погляду, а значыць можа прадаць, каб ён гэтыя лішкі прадаў менавіта дзяржаве, бо такія дзеяньні з яго боку значна палегчаць магчымасьці дабіцца гэтага ад кожнага бедняка і серадняка, што яшчэ сёньня не ўвайшлі ў калгас, і для якіх ён, калгасьнік, ва ўсіх напрамках павінен быць прыкладам. У тым жа, што настроі прадаць свае лішкі спэкулянту, настроі, што зьяўляюцца не перажыўшымі яшчэ сябе рысамі індывідуалістычнае псыхолёгіі, пры ўзьдзеяньні на іх кулацкай агітацыі, з боку паасобных, больш несьвядомых і няўстойлівых калгасьнікаў будуць праяўляцца і менавіта ў гэтым пляне, у гэтым нельга сумнявацца, гэта трэба прадбачыць партыйна-камсамольскім і савецкім арганізацыям у вёсцы і своечасова іх зьнішчаць шляхам шырокае растлумачальнае працы і канкрэтнымі прыкладамі з свайго боку, перш за ўсё.

Па-другое, апрача калгасаў, якія дадуць дзяржаве звыш 40 проц. таварнага хлеба ад нормы, прадугледжанай у агульным пляне, апрача іх, мы маем значны процант аднаасабовых сялянскіх гаспадарак, у дачыненьні да якіх наша задача таксама ў тым, каб кожная з гэтых гаспадарак здала свае лішкі за грошы дзяржаве. Крыху прасьцей справа абстаіць у тых гаспадарках якія кантрактавалі свае пасевы і абавязаны здаць менавіта дзяржаве норму хлеба, прадугледжаную ў кантракцыйным дагаворы. Задачай хлебазагатоўчых і вясковых арганізацый ў дадзеным выпадку зьяўляецца неабходнасьць кантролю над здачаю хлеба па кантрактацыі, неабходнасьць папуля-

рызацыі карыснасьці гэтае здачы. Але ёсьць шмат індывідуальных гаспадарак, што пасевау сваіх не кантрактавалі і ня маюць ніякіх пісьмовых абавязацельстваў аб здачы хлеба дзяржаве. У такіх выпадках перад мясцовымі хлебазагатоўчымі і ўсімі іншымі арганізацыямі стаіць задача—праз мабілізацыю грамадзкасьці дабіцца таго, каб на агульным сходзе такія вёскі ўзялі на сябе абавязацельства прадаваць лішкі свайго хлеба дзяржаве. І менавіта, асабліва ў такіх вёсках у час хлебазагатовак трэба арганізаваць камітэты садзейнічаньня, давесьці плян да вёскі, утварыць і арганізаваць працу груп беднаты, правесьці шырокую растлумачальную працу і актывізаваць бядняцка-серадняцкія масы для націску на кулака, існаваньне якога ў такіх выпадках ня выключана. Усе гэтыя мерапрыемствы з улікам неабходнасьці з боку хлебазагатоўчых органаў і іх апаратаў арганізацыйна ахапіць працэс паступленьня хлеба ад індывідуальных гаспадарак зьяўляюцца абсалютна патрэбнымі.

Па-трэцяе, ня гледзячы на зьніжэньне ўдзельнае вагі кулацкіх гаспадарак, кулакі ў нас яшчэ не ліквідаваны, і менавіта яны будуць імкнуцца шкодзіць нам і спрабаваць усялякімі захадамі сарваць хлебазагатоўкі. Адгэтуль наша задача—папярэдзіць мажлівасьць уплыву кулацкае агітацыі на калгасьнікаў і асабліва на некалгасьнікаў-беднякоў і сераднякоў, вытрымаць барацьбу з кулаком за серадняка і схіліць яго на свой бок, а разам з гэтым, шляхам вызначэньня абавязковае для кулака нормы здачы хлеба дзяржаве пры рэалізацыі даведзенага да вёскі пляну, ударыць па кулаку эканамічна і шляхам жорсткае барацьбы з канкрэтнымі носьбітамі кулацкае ідэалёгіі і кулацкіх настрояў перамагчы яго на ідэалёгічным фронце.

Такім чынам і ў гэтым годзе хлебазагатоўчая кампанія можа прывесьці да пажаданых вынікаў толькі ў тым выпадку, калі з боку хлебазагатоўчых органаў (і каапэрацыйных і дзяржаўных) будзе праяўлена максымальная ўвага да гэтае важнае палітычнае кампаніі, максымальная гнуткасьць, калі гэтыя арганізацыі і іх апараты будуць выконваць ролю ня толькі прыёмшчыкаў хлеба, але і ролю сапраўдных арганізатараў хлебазагатовак, скарыстоўваючы для гэтага ўсе эканамічныя і арганізацыйныя магчымасьці, што ў іх ёсьць,—гэта адно. І другое,—калі партыйна-камсамольскія, савецкія і калгасна-каапэрацыйныя арганізацыі здолеюць узяць пад свой кантроль гэтую кампанію і шляхам шырокае растлумачальнае працы сярод насельніцтва вёскі, асабліва сярод жанчын, актывізуючы гэтае насельніцтва для барацьбы з кулаком і кулацкімі настроямі, шляхам ужываньня мэтаду сацспаборніцтва паміж калгасамі і вёскамі, шляхам скарыстаньня для гэтага друку, хат-чытальняў, клюбаў, кіно і радыё здолеюць правесьці хлебазагатоўкі гэтага году з пункту гледжаньня ажыцьцяўленьня лёзунгу агульнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі СССР і ліквідацыі кулацтва як клясы.

# На загатоўчым фронце

З. Фрыдлянскі

## Задачы спажывецкай каапэрацыі ў бягучай хлебазагатоўчай кампаніі

Сыстэма спажывецкай каапэрацыі зьяўляецца ў бягучым годзе асноўным і галоўным загатавіцелем хлеба, з удзельнай вагой у агульных загатоўках БССР у 83 проц. Такім чынам, перад спажывецкай сыстэмай пры правядзеньні бягучай кампаніі стаяць вялікія і вельмі адказныя задачы.

У абстаноўцы шырокага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты бягучыя хлебазагатоўкі зьяўляюцца полем самай жорсткай клясавай барацьбы на вёсцы. Кулацтва ізноў усімі сіламі імкнецца зрываць хлебазагатоўкі, ужываючы ўсялякія правакацыі.

Ад пасьпяховага правядзеньня бягучай кампаніі ў значнай меры залежыць далейшае разгортваньне нашага сацыялістычныга будаўніцтва. Таму кампанія патрабуе максымальнай мабілізацыі ўсяе грамадзкасьці і сапраўдных баявых тэмпаў ва ўсёй загатоўчай рабоце па выкананьню пляну хлебазагатовак.

У аснову арганізацыйных мерапрыемстваў павінен быць пакладзен вопыт клясавай барацьбы вакол хлебазагатовак мінулай кампаніі. Сыстэма арганізацыйных мерапрыемстваў у сувязі з кампаніяй знаходзіць свой поўны адбітак у пастанове ЦК УсеКП(б) ад 26 ліпеня „Аб арганізацыйных мерапрыемствах і мабілізацыі мас вакол хлебазагатовак“.

У мінулую кампанію шляхам мабілізацыі бядняцка-серадняцкіх мас вёскі быў арганізаваны рашучы націск на кулака.

Арганізацыя вясковай беднаты і згуртаваньне яе з серадняцкімі масамі для націску на кулацкія пласты зьяўляецца асноўнай у справе пасьпяховага правядзеньня хлебазагатоўчай кампаніі.

Канкрэтнымі задачамі кожнага спажывецкага таварыства, яго аддзяленьня зьяўляецца разгортваньне вакол хлебазагатовак шырачэйшай растлумачальнай работы у масах аднаасабовых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і калгасьнікаў.

Растлумачальная работа на вёсцы, арганізацыя бядняцка-серадняцкіх мас вакол хлебазагатовак павінны быць дапоўнены арганізацыяй сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва як паміж асобнымі раёнамі, так і паміж адзінаасобнікамі на хутчэйшае, датэрміновае выкананьне хлебазагатоўчага пляну. Неабходна ўзьняць магутны рух бядняцка-серадняцкіх мас за продаж усіх лішкаў с.-г. прадукцыі толькі дзяржаве (праз каапэрацыю).

Посьпех кампаніі залежыць ад таго, у якой ступені асобныя мясцовыя партыйныя і каапэрацыйныя арганізацыі змогуць, праводзячы правільную клясавую лінію на вёсцы, мабілізаваць бядняцка-серадняцкія масы вакол хлебазагатовак і тым забясьпечыць рашучае наступленьне на кулака.

Для арганізацыйнага афармленьня вясковай грамадзкасьці на месцах пры сельсаветах створаны камісіі садзейнічаньня хлебазагатоўкам, якія павінны зьявіцца тым штабам, вакол якога мабілізуюцца сілы вясковай грамадзкасьці. Гэтыя камісіі зьяўляюцца органамі для аказаньня дапамогі каапэрацыі ў правядзеньні кампаніі, пры заха-

ваньні адказнасьці за выкананьне пляну загатовак.

Важнейшым з арганізацыйных мерапрыемстваў, як і ў мінулым годзе, зьяўляецца давядзеньне з самага пачатку кампаніі пляну хлебазагатовак да вёскі і асобнага кулацкага двара.

Маючы на ўвазе скарочаныя тэрміны загатоўкі і прыёмкі збожжа, неабходна ўсе мерапрыемствы, зьвязаныя з кампаніяй, разглядаць як ударныя.

род хлебазагатоўшчыкаў. На каапэрацыю ўскладзена прыёмка хлеба, закантрактаванага ў індывідуальным сэктары, але і гэтая праца кульгае з тае асноўнай прычыны, што месцы недаацэньваюць важнасьці кантрактацыі ў адзінаасобнікаў. Праверка кантрактацыйных дагавароў працякае злачынна-маруднымі тэмпамі, таксама марудна ідзе перадача дагавароў сыстэмай паляводчай каапэрацыі спажывецкай сыстэме, што перашкаджае рэалізацыі дагавароў.



Павільён зерневых культур.

Між тым паступаючыя з раёну зьвесткі адзначаюць, што падрыхтоўчая праца дагэтуль ня скончана. Шэраг раёнаў ледзь у канцы жніўня давёў свае пляны да сельсаветаў. Будаўніцтва новых складаў праходзіць вельмі марудна, спажывецкія таварыствы спасылаюцца на розныя цяжкасьці, не разгортваючы належнай энэргіі ў перамозе гэтых цяжкасьцяй на месцы. Адсутнічае грамадзка-масавая работа ся-

Адзначаныя недахопы павінны быць безадкладна зьнішчаны і па ўсялякіх апартуністычных настроях у правядзеньні найважнейшай кампаніі трэба моцна ўдарыць. Работу па хлебазагатоўках трэба перавесьці на сапраўдныя баявыя тэмпы, з самым шырокім прыцягненьнем грамадзкасьці, бо посьпех кампаніі ў значнай ступені залежыць ад удзелу ў ёй усіх відаў савецкай грамадзкасьці.

І. Зялічонак

# Больш увагі да плодагародніны

У зьвязку з недахопамі мяса і тлушчаў у значнай ступені ўзрастае роля гародніны, якая можа і павінна замяніць гэтыя прадукты.

Дзякуючы гэтаму попыт у гэтым годзе на гародніну з боку рабочага спажыўца значна ўзрастае.

Таму плян загатовак сцажывецкай каапэрацыі, на абавязкі якой ускладзена поўнасьцю здаволіць патрэбу ў гародніне рабочых цэнтраў, узрастае ў некалькі раз у параўнаньні з мінулым годам.

Калі мы параўнаем плян загатовак па асноўных культурах з фактычна нарыхтаваным спажывецкай каапэрацыяй у мінулым годзе, мы будзем мець наступнае:

| | Нарыхтаваны ў мін. годзе ў тыс. тон | Плян на гэты год у тыс. тон | % % павялічэньня |
|---|---|---|---|
| Бульба | 85 | 263 | 309 |
| Капуста | 0,677 | 4,5 | 606 |
| Буракі | — | 2,5 | — |
| Морква | — | 1,5 | — |
| Гуркі | 0,052 | 0,86 | — |
| Цыбуля | 1,35 | 2 | — |
| Яблыкі | 2 | 8,5 | 400 |

Нарыхтоўка бульбы павялічваецца ў тры разы, капусты—у шэсьць, а яблыкаў—у чатыры разы. Нарыхтоўка такіх культур, як буракі, морква, якія амаль што зусім не нарыхтоўваліся нашай сыстэмай, павінна ў гэтым годзе заняць немалое месца.

Усе гэтыя лічбы гавораць аб тым, якая вялізарная праца стаіць перад нашай сыстэмай.

Такія лічбы і важнае палітычна-гаспадарчае значэньне нарыхтоўчай кампаніі ўскладаюць вялікую адказнасьць на ўвесь апарат спажывецкай каапэрацыі.

Плян павінен быць даведзены да кожнага райст, да кожнага працаўніка. Трэба, каб кожнае райст добра падлічыла лічбы свайго пляну і зараз жа праверыла, як падрыхтаваны апарат да правядзеньня гэтага пляну.

Асаблівую ўвагу патрэбна будзе зьвярнуць на тэхніку прыёмкі, а асабліва бульбы, калі пачнецца масавае паступленьне яе. Нам добра памятна тая блытаніна, нераспарадчасьць, якая існавала ў мінулым годзе. Сялянам, якія дастаўлялі бульбу, прыходзілася чакаць амаль што цэлы дзень; на буйных станцыях чыгункі, дзе ішла буйная пагрузка, не хапала вагаў, гір, прыёмшчыкаў, ня былі пабудаваны часовыя навесы для пераборкі бульбы, ня было арганізавана месца для адпачынку сялян, было яшчэ шмат недахопаў, якія ў гэтым годзе павінны быць рашуча зьнішчаны.

Нарыхтоўка бульбы ў гэтым годзе, як і ў мінулым, будзе праводзіцца шляхам давядзеньня плянаў да вёскі і да кулацкага двара.

Калі ў мінулым годзе давядзеньне пляну да вёскі, мы пачалі толькі ў лістападзе, то ў гэтым годзе мы з пачатку кампаніі праводзім нарыхтоўку па гэтай сыстэме. Гэта, бязумоўна, дае магчымасьць унесьці больш плянавасьці ў працу.

Таксама будзе спрыяць і тое, што кожнае райст будзе мець каляндарны плян здачы і вывазу.

Асаблівую ўвагу патрэбна будзе зьвярнуць на якасьць загатаўляемых і адгружаемых прадуктаў. Тым зьявішчам, якія мелі месца у мінулым годзе і наглядаюцца яшчэ зараз, павінна быць абвешчана бязьлітасная барацьба. Трэба разгарнуць грамадзкасьць на вёсцы за здачу выключна добраякаснага прадукту. Трэба прыняць рашучыя захады да зьнішчэньня такіх зьявішчаў, як пагрузка бульбы ў брудныя вагоны, не перабранай і г. д. Трэба, каб кожны працаўнік, на-

рыхтоўшчык памятаў, што прыёмка і адгрузка нядобраякаснага прадукту ня можа ў сучасны момант разглядацца інакш, як шкодніцтва ў справе рабочага забесьпячэньня.

Ня менш адказнасьці ляжыць на апараце цэрабкопаў, якія павінны будуць прыняць гэтую колькасьць гародніны, якая па ўсіх ЦРК БССР складае 132.710 тон, пры чым з гэтай колькасьці 93.329 тон бульбы і 39.371 тона рознай гародніны. 70 проц. бульбы і амаль што ўся менш 40-50 проц. завозу бульбы распаўсюдзіць сярод рабочых.

Трэба зараз жа разгарнуць шырокую растлумачальную працу на прадпрыемствах, дабіўшыся, каб кожны рабочы атрымаў ня менш двухмесячнай патрэбы. Праўленьням ЦРК, грунтуючыся на падставе пастановы ЦК КП(б)Б ад 4-VII па рабочаму забесьпячэньню, трэба патрабаваць ад усіх мясцовых органаў дапамогі ў гэтай справе шляхам мабілізацыі транспарту,




Павільён электрыфікацыі.

колькасьць гародніны павінны быць прыняты ўвосень.

Для таго, каб гэтую колькасьць своечасова прыняць і разьвезьці па складах і хавальнях, патрэбна мабілізаваць увесь апарат ЦРК, прыцягваючы да гэтай справы кааперацыйны актыў.

Хавальні, якія ёсьць і якія будуюцца, забясьпечваюць ня больш 25 проц. пляну завозу, таму вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на дастаўку гародніны, асабліва бульбы надом. Кожны ЦРК павінен ня складаў і г. д. Асаблівую дапамогу павінны аказаць прафсаюзы, на якіх ляжыць адказнасьць у справе рабочага забесьпячэньня.

Аднэй з важнейшых спраў у плодагароднінай кампаніі зьяўляецца кансэрвацыя (засолка капусты, гуркоў, варка павідла).

Па пляну патрэбнасьць ЦРК па БССР складае: капуста квашаная—6015 тон, гуркі салоныя—2000 тон, павідла—4000 тон. З гэтай колькасьці ЦРК павінны заквасіць

ва ўласных чанах 3060 тон капусты і засаліць 1053 тоны гуркоў.

Акрамя гэтага, у гэтым годзе дадзена заданьне райст заквасіць 1600 тон капусты і засаліць 450 тон гуркоў, якія таксама павінны пайсьці на забесьпячэньне рабочых.

Трэба адзначыць, што да гэтай кампаніі як БКС, так і паасобныя ЦРК дрэнна падрыхтаваны. Недахоп бочак і чанаў пагражае зрывам выкананьня пляну. Трэба прыняць усе крокі да таго, каб час, які застаўся, скарыстаць на пабудову чанаў. Лесаматар'яламі буйнейшыя ЦРК забясьпечаны. Трэба мабілізаваць рабочую сілу, ня спыняючыся перад зьняцьцем яе з другой будоўлі, і найхутчэй пабудаваць чаны.

Трэба рашуча падкрэсьліць, што, ня гледзячы на значна павялічаныя лічбы нарыхтоўчага і перапрацоўчага плянаў, яны зьяўляюцца, бязумоўна, рэальнымі.

Нельга ні ў якім разе забывацца, што нарыхтоўкі ў гэтым годзе будуць праходзіць пры абвостранай клясавай барацьбе. Кулак будзе ўсялякімі шляхамі спрабаваць сарваць нашу працу, а таму трэба яшчэ і яшчэ раз праверыць кожны куток нашай працы. Трэба рашуча павярнуць увесь апарат „тварам да гародніны“, трэба рашуча выжыць апартуністычны настрой, што праца з гароднінай не прыбытковая. Гэтыя настроі трэба зьнішчыць ня толькі сярод адказных працаўнікоў каапэрацыі, але і сярод усіх працаўнікоў.

Лёзунгам кожнага працаўніка каапэрацыі павінна стаць: выкананьне і перавыкананьне пляну, даць рабочаму спажыўцу добраякасную і танную гародніну.

Толькі пры гэтых умовах мы можам быць упэўнены, што поўнасьцю выканаем ускладзеную на нас партыяй і ўладай важнейшую палітычную задачу.

---

Адамчук

## За ўдзел жанчыны ў загатоўчай кампаніі

Кампанія хлебазагатовак і плодагародніны ў гэтым годзе набывае выключна важнае значэньне. Каб правесьці ў жыцьцё задачы, пастаўленыя перад намі шаснаццатым партыйным зьездам па хлебазагатоўках і плодагародніне, нам неабходна шырока разгарнуць масавую працу сярод жанчын батрацкабядняцкай і серадняцкай масы, якая будзе мець вялікае значэньне ў справе пасьпяховага правядзеньня хлебазагатоўчай і плодагародніннай кампаніі.

Усім вядома, што хлебазагатоўчая і плодагароднінная кампаніі ў гэтым годзе, як ніколі, будуць праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы.

Масавая работа сярод жаночай батрацка-бядняцкай і серадняцкай часткі павінна быць супроцьпастаўлена агітацыі кулака, які будзе імкнуцца зрываць загатоўку. У гэтым годзе на спажывецкую каапэрацыю ўскладзены плянавыя загатоўкі ўсіх відаў хлеба, плодагародніны і г. д. Заданьне павінна выконвацца ўдарным тэмпам, пры масавым і актыўным удзеле жанчын батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас. Выходзячы з гэтага, нам неабходна праводзіць нарады жанкаапактыву, гутаркі па хлебазагатоўках і плодагародніне.

Неабходна дабіцца праз правядзеньне шырокай масавай работы практычнага ўдзелу жанчын ў зборы тары, праўцы мяхоў, выяўленьні складзкіх памяшканьняў і г. д.

Для гэтага неабходна арганізаваць жангутаркі, праводзіць гучныя

чыткі, сьветавую газэту, праз якую дэманстраваць лепшых актывістак, якія прымаюць шчыры ўдзел у гэтых кампаніях. Адначасова выяўляць асоб з адмоўнага боку, якія зрываюць працу. Гурткі павінны быць забясьпечаны жаночай літаратурай, якая-б адбівала ўдзел жанчыны ў хлебазагатоўчай і плодагароднікнай кампаніях.

Неабходна арганізаваць жаночую батрацка-бядняцкую частку так, каб яна была застрэльшчыкам сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў чырвоных абозах.

Праўленьні спажыўкаапэрацыі павінны заслухоўваць даклады каапжанорга на сваіх пасяджэньнях аб прароблёнай працы ў галіне хлебазагатовак, плодагародніны, збору тары і г. д. Усю правадзімую працу сярод жанчын асьвятляць у друку і інфармаваць аб удзеле жанчын у інфармацыйных зводках.

Тыя праўленьні спажыўкаапэрацыі, якія будуць ігнараваць належныя дырэктывы ў гэтым напрамку, павінны прыцягвацца да суровай адказнасьці.

І. І.

## Некалькі заўваг пра кантрактацыю і мясазагатоўкі

Пытаньню вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы было ўдзелена шмат увагі XVI зьездам партыі. Для вырашэньня гэтай адказнай працы даны канкрэтныя паказаньні, якія павінны быць вядомы кожнаму партыйцу, члену КСМ і актывісту вёскі. Цяпер у практыцы выкананьня гэтай адказьнейшай дырэктывы партыі ўсё больш выяўляецца, што мясцовыя паасобныя каапэрацыйныя працаўнікі не зразумелі сэнсу гэтай працы. Выяўляецца, што цэлы шэраг працаўнікоў ігнаруе гэты вучастак сельска-гаспадарчага фронту. Яны не ўяўляюць сабе цяжкасьцяй гэтага становішча і не ўсьведамляюць важнасьці ўсіх пытаньняў працы па разьвіцьцю жывёлагадоўлі.

Галоўную ролю ў разьвіцьці жывёлагадоўлі адыгрываюць саўгасы і калгасы. У мэтах укамплектаваньня стада і захаваньня маладняка, праводзіцца кантрактацыя жывёлы, загатоўка, захаваньне ад убою маладняка, прыгоднага для разьвіцьця жывёлагадоўлі. Адзначаная адказьнейшая праца ўскладаецца на каапэрацыйныя арганізацыі, якія і павінны правесьці яе.

Што-ж мы бачым на справе? Калі мы зьвернемся да лічбаў выкананьня кантрактацыі хаця-б у галіне спажывецкай каапэрацыі, то далёка ня ўсё абстаіць добра. Было прапанавана закантрактаваць буйной рагатай жывёлы 29.124 шт., а закантрактавана 8.596 галоў. Маладняка трэба было закантрактаваць 54.250 галоў, а закантрактавана 2.796. Сьвіней патрэбна было закантрактаваць 16.168, а закантрактавана—5.075.

Такі-ж малюнак мы наглядаем і ў галіне малочнай жывёлагадоўчай каапэрацыі.

Калі ў нас і ў далейшым будзе такі тэмп кантрактацыі, зразумела, што мы ня справімся з ускладзенымі на нас задачамі.

Цікава адзначыць некалькі выпадкаў у выкананьні пляну па кантрактацыі: *Азарычамі* закантрактавана буйнай рагатай жывёлы 180 гал., сьвіней—106 галоў, маладняка —387 галоў, а патрэбна было закантрактаваць: буйнай рагатай жывёлы 315 галоў, сьвіней 180 галоў, маладняка 514 галоў. Гэта сьведчыць аб тым, што таварыства і кіруючыя ім асобы рашэньне партыі зматлі

правесьці ў жыцьцё хаця ня цалкам, ня спыняючыся перад цяжкасьцямі і са ўсёй рашучасьцю перамагаючы ўсякія кулацкія вылазкі.

Цікава супаставіць выкананьне заданьня тураўскага і гомельскага таварыстваў. Па заданьню таварыствы павінны былі закантрактаваць буйнай рагатай жывёлы 300 галоў, маладняка—315, сьвіней—150. Выканана: буйнай рагатай жывёлы—0%, маладняка—0%, сьвіней—0%. Гэта кажа аб тым, як вялася праца ў напрамку кантрактацыі. Тут поўная няяснасьць, дэмабілізацыйны настрой перад цяжкасьцямі, тут адчуваецца неарганізаванасьць, не мабілізавана на гэту справу грамадзкасьць раёну.

Трэба сказаць, што такія таварыствы ў гэтай справе зьяўляюцца не адзінымі. Вялікая частка раёнаў, якім дадзены заданьні па кантрактацыі, хаця і ня поўнасьцю, але выконваюць іх і да іх выкананьня прымаюць усе меры. Ёсьць некаторыя аддзяленьні спажыўкаапэрацыі, якія бяруць прыклад з апошніх.

Цяпер аб мясазагатоўках. Калі ўзяць выкананьне гадавога пляну па 20-е жніўня, то выканана 82%. Нібы справа з гэтым абстаіць добра.

Але ёсьць некаторыя таварыствы, якія ўвесь час цягнуцца ў хвасьце па выкананьню пляну. Напрыклад, Заслаўскае, Журавіцкае, Прудзкае і інш. Гэтыя таварыствы ўвесь час шукаюць аб'ектыўных прычын, а самі, можна з упэўненасьцю сказаць, нічога ня робяць для выкананьня заданьня і плянавага забесьпячэньня рабочых цэнтраў. Таксама рэагуюць не на ўсе паказаньні аб тым, як праўленьне павінна паставіць тую ці іншую працу па выкананьню пляну. Часамі такія кіраўнікі, як з Дрыбінскага спажывецкага таварыства Рабіновіч, на тэрміновых лістох БКС робяць надпіс: «Да ведама», і на гэтым выкананьне плянаў канчаецца.

Гэта яшчэ ня ўсё. Шмат мяса разбазарваецца на месцы звыш усякіх норм і разнарадак. «Як гэта мы, загатаўцелі, і будзем сабе ў гэтым адмаўляць, еж колькі хочаш»,— апраўдваюцца яны, а там яшчэ добраму таварышу таксама патрэбна даць.

Дрыбін так і разбазарыў 4880 кілёграм мяса сярод сваіх добрых суседзяй для падтрыманьня свайго аўтарытэту.

Такое выкананьне плянаў, такая мясазагатоўка ў далейшым быць не павінна. Трэба з усёй рашучасьцю зьнішчыць дэмабілізацыйныя настроі, якія наглядаюцца ў працаўнікоў спажывецкае каапэрацыі ў сувязі з нашымі цяжкасьцямі. Больш адказнасьці і выразнасьці ў рабоце. Патрэбна паставіць пытаньне рубам, узьняць работу на адпаведныя тэмпы і выконваць пляны загатоўкі і кантрактацыі поўнасьцю і своечасова.

Трэба не забывацца, што ад своечасовага і поўнага выкананьня пляну загатовак залежыць выкананьне нашага пяцігадовага пляну ў чатыры гады.

Выходзячы з гэтага, на мясцох не павінна быць пасыўных адносін да плянаў мясазагатовак і кантрактацыі.

У гэту працу павінен быць уцягнуты ўвесь актыў нашае вёскі: калгасьнікі, батракі, бедьнякі і серадьнякі, праца якіх павінна разьбіць усе кулацкія настроі па кантрактацыі і мясазагатоўках.



# Грамадзкае харчаваньне—на буксір

Нісэнбаум і Ліпшанскі

## У палоне бясплянавасьці і нядбайнасьці

*Ня так даўно інструктарамі Белкаапсаюзу было зроблена абсьледваньне становішча хлебапячэньня па некаторых гарадох БССР. Імі было выяўлена досыць шмат непарадкаў у гэтай галіне, аб чым сёньня і даводзіцца да ведама ўсяе грамадзкасьці і належных органаў*

### У Менску

Калі было праведзена абсьледваньне становішча хлебапячэньня ў аддзяленьні хлебазаводу і 4-ай пякарні, то выявіўся шэраг ненармальнасьцяй. Пякарня і аддзяленьне хлебазаводу маюць 13 печаў, якія здольны выпякаць 30 тысяч кілёграмаў у суткі, а выпякаюць толькі 26-27 тысяч кілёграмаў. Тлумачыцца гэта тым, што адміністрацыя і дырэкцыя аддзяленьня хлебазаводу і старшыя майстры плятуцца ў хвасьце. Ёсьць выпадкі з боку старшага майстра Дрэйцара, які гаворыць: „хочаш пячы яшчэ адну выпечку, дык будзеш мець рубель, а не, ня трэба“, дзякуючы чаму наглядаецца прастой печаў, якія недагружаны ня толькі ў зьмене Дрэйцара, а і па другіх зьменах. У выніку мы маем прастой печаў пры зьмене брыгад. Стаяць печы бяз дзела ад аднае да паўтары гадзіны. Адначасова з гэтым працуючыя побач два майстры выпрацоўваюць па-рознаму: адзін выпякае чатыры печы, а другі—пяць.

Усям у гэтаму садзейнічаюць адсутнічаньне адзінаначальля і заняпад працы вытворчых нарад, якія ня скліканіся на працягу чатырох месяцаў. Прамфінплян ня рэальны. Пры прастоях печаў заўважаецца перавыкананьне ў некаторых галінах. Ёсьць перавыдатак дроў на трэці квартал у ліку 20-ці куб. саж.

Пад відам браку адпускаецца рабочым хлеб па 15-20 кілёграмаў. Прыпёк няправільны, што зьмяншае хлебны балянс. Адсутнічае кантроль па падсыпцы мукі на дошкі, на што ідзе лішняй мукі ў суткі 350 кілёграмаў. Такое-ж становішча мы маем у 4-ай пякарні, дзе ў вядры, якім льлюць ваду на замеску цеста, мыюць ногі. Мука не прасейваецца, няма ўшчыльненага рабочага дню, няма гаспадарчага вока з боку загадчыка. Ёсьць лішні экспэдытар. Няма пэўнага падліку магчымай выпрацоўкі: напрыклад, рабочы майстра пад націскам падмайстроў зрабіў адну лішнюю выпечку. Усё вышэйадзначанае кажа нам аб тым, што ў пякарні няма належнага кіраўніцтва з боку дырэктара.

### У Воршы

Тут адсутнічае кіраўніцтва з боку дырэкцыі заводам і ўсімі пякарнямі. У пякарняў, якія знаходзяцца пад кіраўніцтвам дырэкцыі, зусім няма норм выпрацоўкі, рабочыя працуюць ад пуда, дзякуючы чаму наглядаюцца рвацкія настроі і пагоршаньне якасьці прадукцыі. Прамфінплян ня рэальны: у той час, калі завод разам з пякарнямі павінны даць звыш 22 тысяч кілёграмаў у суткі, яны даюць 15 тысяч кілёграмаў. У булачным цэху былі выпадкі, калі рабочыя ў паго-

ні за прыбыткам важылі французскія булкі замест 300 грам па 400, што дало ўсё разам узятае дэфіцыт на 40.000 рублёў. У кандытарскім цэху нябывалае рвацтва: рабочыя мелі да 150 проц. прырабатку, але пры нашым абсьледваньні і пад нашым націскам былі зьніжаны расцэнкі на 35 кап. з пуда (замест 1 р. 25 кап. пачалі плаціць 90). Было выдаткавана 152 мяшкі не на свае патрэбы. 80 мяшкоў лёгкая кавалерыя знайшла на стрэхах заводу, мяшкі таксама валяюцца ў карнях: курэньне, лаянка, хаджэньне па заводзе і ў пякарні без патрэбы звычайныя зьявішчы.

Пры абгаварэньні вывадаў на вытворчай нарадзе быў зьняты з працы майстра Гур'ян, у якога больш як ува ўсіх непарадкаў.

Выяўлены нядбайныя адносіны з боку праўленьня і дырэкцыі заводу да сваіх абавязкаў, што прывяло да поўнага развалу чатырох печаў, якія ня сёньня-заўтра павінны разваліцца ў часе працэсу работы.



мусарных ямах, валяюцца новыя формы ў зайржавелым выглядзе, і гэта ў той час, калі ёсьць недагрузка печаў у другіх пякарнях з-за адсутнасьці форм. Няма правілаў унутранога распарадку як на заводзе, так і ў пякарнях. Няма падліку гатовых вырабаў. Няма пунктуальнага падліку прыпёку; як прыклад, можна прывесьці наступнае: па падліку бухгальтэрыі і са слоў дырэктара заводу прыпёк лічыцца 47 проц., а згодна зробленае пробнае выпечкі выяўлена 53 проц. прыпёку, што зьмяншае хлебны балянс. Адсутнічае дысцыпліна на заводзе і ў пякарнях: курэньне, лаянка, хаджэньне

Ні разу не заслухоўваўся даклад дырэктара заводу аб становішчы хлебапячэньня, таксама адсутнічае работа вытворчых нарад, няма ніякіх нагляданьняў з боку майстра і тэхнічнага пэрсаналу над работай качагаркі, што прывяло да псаваньня катла, рамонт якога каштаваў 8.000 рублёў, таксама было за апошні квартал 23 тысячы кілёграмаў браку печанага хлеба. Няма падліку патрэбнасьці дроў. Побач з гэтым наглядаюцца нядбайныя адносіны да пякарні Асінбуду: адпраўляемы хлеб з Асінбуду ў Воршу валяецца на станцыі па двое сутак. У той час, як у горадзе

Воршы на станцыі ёсьць загадчык пякарні і экспэдытар, якія цалкам не нагружаны, загадчык вагонаў (трэцяя пасада), атрымліваючы 120 рублёў пэнсіі ў месяц, адпраўляе праз два дні на трэці вагон хлеба. Некаторыя рабочыя бяруць хлеб і бяз ведама адміністрацыі і ідуць да хаты. За пагрузкай вагона хлеба няма ніякага кантролю. Рабочы ня ведае, што такое прамфінплян. У пякарні быў прастой 2 сутак з-за адсутнасьці мукі. Спэцвопраткі няма, цяпер рабочыя працуюць босыя.

### У Горках

Няма прамфінпляну, няма пунктуальнага працанту прыпёку, адсутнічае адзінаначальле ў пякарні, наглядаецца хвасьцізм з боку загадчыка пякарні таварыша Гурэвіча. Няма кантролю прыёму хлеба з печнае залі. Побач з гэтым ёсьць некаторыя дасягненьні, як, напрыклад, рабочыя пякарні адмовіліся ад яды выпякаемых вырабаў, у той час, як у Менскім аддзяленьні хлебазаводу „на прабаваньне“ выдаткоўвецца штомесячна 900 рублёў.

### У Дуброўне

Як з боку праўленьня, так і другіх арганізацый няма зацікаўленасьці ў Дубровенскім хлебапячэньні. Рабочыя мануфактурнай фабрыкі адмовіліся браць хлеб з прычыны нізкае якасьці яго, што выявілася на нарадзе пры абгаварэньні вывадаў. Зусім адсутнічае зранку загадчык пякарні. Хлеб на пагрузку бяруць самі возчыкі і прыказчык, а загадчык прыходзіць на работу а дзесятай гадзіне. Няма падліку мукі, якую атрымліваюць рабочыя для выпечкі, няма цьвёрдай нормы выпрацоўкі. Бралі гатовыя вырабы пад выглядам пайку. Таксама адбываецца продаж гатовых вырабаў за наяўны разрахунак бяз ніякага кантролю. Няма правільнага працанту прыпёку. Згодна пробнай выпечкі, якую рабіла брыгада РСІ, магчыма атрымаць 52 проц., а па падліку бухгальтэрыі лічыцца 47 проц. Францускія булкі па падліку бухгальтэрыі на пуд мукі лічацца 65-68 шт., а праведзены вопыт даў 75 штук. Няма кантролю па выдачы хлеба ў сталовых. Пайшчык атрымлівае па кніжцы да хаты і ў сталовай бяз усякай нормы, што было пацьверджана рабочымі мануфактурнай фабрыкі на нарадзе.

Рабочыя мануфактурнай фабрыкі патрабавалі добрае якасьці вырабаў і пераламу ў працы, што ім дало-б магчымасьць атрымліваць хлебам, а ня мукой.

Рабочыя на нарадзе пастанавілі ўзяць шэфства над пякарняй і практычна дапамагчы ёй у працы. Нарада ўхваліла зьняць з працы загадчыка пякарні, які давёў да такога становішча пякарню.

**Р. П.**

## Недахопы ў працы Віцебскага ЦРК

Дырэктывы партыі аб пераважным і найбольш поўным абслугоўваньні рабочых пачалі праводзіцца Віцебскім ЦРК толькі за апошні час, і то ня ў поўнай меры. Амаль што ўсе прамтавары, як мануфактура, бялізна, ніткі і інш., разьмяркоўваліся паміж усімі пайшчыкамі ў аднолькавай норме без дыфэрэнцыяцыі па сацыяльных групах. За выключэньнем цукру і круп, нормы выдачы якіх устанаўліваліся цэнтрам, усе харчовыя прадукты таксама разьмяркоўваліся без дыфэрэнцыяцыі норм.

Віцебскі ЦРК зусім не паклапаціўся аб арганізацыі правільнай і рэгулярнай развозкі тавараў па сетцы. За выключэньнем прамтаварнай групы, дзе ўстаноўлены каэфіцыенты, тут існуе выпадковасьць. Шмат выпадкаў бывае, калі пайшчыкі зварочваюцца за атрыманьнем таго ці іншага тавару, а яго

ящчэ ў шмат якіх крамах няма. Маючы сетку крам, буфэтаў і сталовых усяго каля 290 адзінак, ЦРК мае транспарт толькі з 34 коняй, з якіх зусім прыгодных пад поўны цяжар ёсьць толькі палова. Гэта выклікае перабоі ў забесьпячэньні сеткі нават такімі таварамі, як газа, соль і хлеб. Былі выпадкі, калі асобныя крамы заставаліся па некалькі дзён бяз газы і солі. Па 15 разьмеркавальніках газы развозіцца толькі дзьвюма падводамі, што зьяўляецца прычынай вялікае чаргі. ЦРК не спраўляецца сваячасова развозіць паступаючыя цяжары. З прыбыўшых 3 жніўня 10 вагонаў бульбы, пры яе вострым недахопе, разьвезена ў той дзень па крамах і сталоўках толькі 2 вагоны, на заўтра—4.

ЦРК ня выконвае неабходнай манэўранасьці пры разьмеркаваньні таварных фондаў. З паступіўшых за два месяцы сямі тон кароўяга масла раздадзена па сталоўках і крамах пяць тон, а цяпер ЦРК сядзіць бяз масла. Тое самае назіраецца і з селядцамі.

Цэрабкоп вельмі малую ўвагу зьвярнуў на пытаньні палепшаньня якасьці абслугоўваньня спажыўцоў. Новы рацмінімум цэнтрасаюзу нават не абгаварваўся, а праект яго правядзеньня ляжыць ў стале рацыяналізатара. Маючыяся інструктары-кантралёры не скарыстоўваюцца па непасрэднаму прызначэньню — кантролю і рацыяналізацыі сеткі, а для розных дробных спраў у гандлёвым аддзеле: зьняцьця астач у крамах, загатоўкі талёнаў на дэфіцытныя тавары і г. д. Прапановы НКРСІ аб мерапрыемствах па барацьбе з чаргамі (у выніку спэцыяльнага абсьледваньня ЦРК) і рацмінімум Цэнтрасаюзу ў значнай сваёй частцы ня выкананы. Не праведзена прымацаваньне пайшчыкаў да крам, не наладжана дастаўка малака і іншых прадуктаў на дом, не ўрэгуляваны парадак водпуску дэфіцытных тавараў з магазынаў і няма кантролю за гэтай справай. Дрэнна пастаўлена інфармацыя пайшчыкаў, не наладжан рацыяналізатарскі і плянавы апарат і г. д. У апараце гандлёвага аддзелу і ў праўленьні цэлыя дні шум і гам—усе заняты спрэчкамі з асобнымі пайшчыкамі аб водпуску ім дэфіцытных тавараў і г. д. Займацца плянавай працай і сапраўдным кіраваньнем няма калі.

Шмат няправільнасьцяй і адступленьняў Віцебскі ЦРК дапусьціў пры выдачы заборных кніжак. Перш за ўсе ён устанавіў чатыры катэгорыі замест трох, што выклікала шэраг недарэчнасьцяй і нездавальненьняў. Некаторыя групы насельніцтва няправільна аднесены да вышэйшых катэгорый і наогул дацушчан шэраг няправільных выдач, што павялічвае выдаткаваньне дэфіцытных прадуктаў.

Апарату Віцебскага ЦРК патрэбен вялікі рамонт.

**К. П.**

## Непаваротнасьць МЦРК

У зьвязку з некаторымі цяжкасьцямі на мясным фронце, у нас наглядаюцца цяжкасьці і ва ўсёй сыстэме грамадзкага харчаваньня. У даны момант нашы каапэрацыйныя арганізацыі павінны быць гнуткімі ўва ўсіх напрамках свае дзейнасьці і асабліва ў напрамку грамадзкага харчаваньня. Каапэрацыя павінна ўмець выкарыстоўваць усе рэсурсы, усе харчовыя крыніцы для ўзьняцьця грамадзкага харчаваньня, для пасьпяховага абслугоўваньня рабочага спажыўца і працоўных наогул.

На жаль, ня ўсе каапэрацыйныя арганізацыі выяўляюць аднакавую гнуткасьць. Напрыклад, МЦРК ніяк ня можа поўнасьцю прыстасавацца да сёньняшняга дня, да сучасных тэмпаў сацыялістычнага

будаўніцтва, да сёньняшніх магчымасьцяй, да сёньняшняга запатрабаваньня рабочага спажыўца.

Як, напрыклад, абстаіць справа ў нашых грамадзкіх сталоўках МЦРК? Справа абстаіць далёка нездавальняюча. Мы ня будзем казаць аб тым, што МЦРК яшчэ да гэтага часу ня здолеў ліквідаваць чаргі за абедам, сьнеданьнем і вячэрай—гэта недахоп другараднага характару; у чым жа корань зла, аб гэтым скажам ніжэй.

Галўная бяда і галоўны недахоп у працы МЦРК заключаецца ў тым, што ЦРК ня ўмее, а магчыма, ня хоча выкарыстоўваць усіх нашых харчовых крыніц, ня ўмее рацыянальна выкарыстоўваць таго прадукту, які можна выкарыстаць толькі сёньня, які знаходзіцца каля ног ЦРК, якім можна зусім танна забясьпечыць нашага спажыўца. Гэтым я хочу сказаць адносна выкарыстоўваньня МЦРК для грамадзкага харчаваньня такога таннага харчу, як усякага сорту грыбоў, памідораў, гуркоў, картоплі і іншай гародніны. Трэба сказаць, што ў нас гэта крыніца харчу выкарыстоўваецца вельмі і вельмі няўмела, а часам проста злачынна. Бывалі-ж такія дні, калі ў крамах МЦРК ня было картоплі. Зараз у сталоўках вельмі цяжка ўбачыць памідор, гурок, і зусім ня відаць у сталоўках грыбоў. Што гэта значыць? Няўжо у нас няма гэтага прадукту? Колькі хочаш. Але закасьцянеласьць апарату МЦРК, яго бюракратычная непаваротнасьць пакідае ўвесь гэты каштоўны прадукт у баку сталоўкі.

Няўжо ЦРК ня можа паставіць так справу, каб у нашых грамадзкіх сталоўках было даволі картоплі? Няўжо немагчыма згатаваць некалькі сот порцый картоплі з гурком на вячэру ці на сьнеданьне? Няўжо немагчыма згатаваць спажытачную порцыю з памідораў? Няўжо немагчыма правесьці масавую загатоўку рознага гатунку сырых грыбоў, якіх нямала ў нашых лясох і якія гінуць за нішто, ды скарыстаць іх для абеду ці вячэры? Гэта ўсё можна зрабіць. Для гэтага ёсьць усе магчымасьці, але для гэтага трэба «некаму» папрацаваць

Я прывяду некалькі прыкладаў, як абстаіць справа ў галіне грамадзкага харчаваньня ў Гомелі. Там у гэтым напрамку ЦРК спраўляецца досыць добра. ГЦРК у сваіх сталоўках выкарыстоўвае ўсе харчовыя крыніцы, якія толькі магчыма выкарыстаць сёньня.



Загатоўкі ільну

Напрыклад, побач з іншым сьнеданьнем, у сталоўцы вы сустрэнеце порцыі картоплі у розным выглядзе: адна порцыя з селядцом, другая—з гурком, трэцяя—з памідорам і, такім чынам, спажывец за танную плату можа атрымаць сьнеданьне альбо вячэру. Таксама ў час абеду вы можаце сустрэць, побач з мяснымі, рыбнымі і іншымі порцыямі, вялікую колькасьць порцый з самых простых грыбоў—лісіц, якія ўмела згатаваны.

Такім чынам рацыянальна выкарыстоўваецца самы танны прадукт для харчаваньня, і гэтым самым атрымліваецца эканомія на іншыя прадукты.

МЦРК чамусьці гэтага зрабіць ня можа. МЦРК нерацыянальна выдаткоўвае прадукты, якіх часам не хапае, а тыя прадукты, якія можна зараз выкарыстаць, якія можна з вялікім посьпехам загатовіць, застаюцца і прападаюць у лесе.

# Барацьба за кадры

М. і А.

## У нетрах бязьдзейнасьці і павольнасьці

Падрыхтоўка кадраў зьяўляецца адным з вашнейшых вучасткаў барацьбы за выкананьне пяцігодкі, за сацыялізм. Гэта задача зараз ужо зразумела нават кожнаму піянэру. Партыйнымі і ўрадовымі органамі гэтая задача пастаўлена перад усімі гаспадарчымі і грамадзкімі арганізацыямі, у тым ліку і перад спажывецкай каапэрацыяй, яшчэ ў пачатку пяцігодкі і асабліва падкрэсьлена лютаўскім і лістападаўскім пленумамі і ЦК УсеКП(б) 1929 г., XVI зьездам УсеКП(б) і XIII зьездам КП(б)Б.

Здавалася-б, што ў Белкаапсаюзе гэтыя важнейшыя дырэктывы партыйных і ўрадовых органаў павінны былі знайсьці неадкладнае ператварэньне ў жыцьцё. Што-ж мы бачым? Вось ужо два гады, як сыстэма спажывецкай каапэрацыі пачала адчуваць востры недахоп у кваліфікаваных кадрах, у спэцыялістых вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі, а таксама ў працаўнікох масавых прафэсій. І зараз цэлы шэраг раённых спаж. таварыстваў сядзіць без плянавікоў-эканамістых, без спэцыялістых па нарыхтоўках сельгаспрадуктаў, плодагародніны, без працаўнікоў грамадзкага харчаваньня, бяз бухгальтараў, статыстыкаў, рахункаводаў і г. д. Не ўва ўсіх райст. яшчэ ўкамплектаваны і кіруючы склад.

Прадугледзець такую патрэбу, вядома, можна было-б яшчэ дватры гады таму назад, бо тут нічога мудрага няма.

Яшчэ два гады таму назад Белкаапсаюз павінен быў разгарнуць сетку стацыянарных каапэрацыйных навучальных устаноў, якія-б сваімі выпускамі ўжо зараз забясьпечвалі патрэбу ў кадрах. Між тым на працягу апошніх двух год Белкаапсаюз палец аб палец ня ўдарыў для адчыненьня такіх навучальных устаноў: як існаваў адзіны „недзялімы“ для ўсіх сыстэм каапэрацыі БССР Віцебскі каапэрацыйны тэхкум з штогоднім выпускам у 20-30 асоб, дык мусіць бы і застаўся такім, каб СНК не перадаў яго ў веданьне Белкаапсаюзу.

Пастанова СНК СССР ад 24-І-30 г. і шматлікія дырэктывы Цэнтрасаюзу абавязваюць спажывецкую каапэрацыю БССР разгарнуць сетку навучальных устаноў розных тыпаў: школ ФЗВ кулінараў, школ каапэрацыйна - гандлёвага вучнёўства, школ-магазынаў, двухгадовых батрацка-бядняцкіх курсаў, каапэрацыйных тэхнікумаў і г. д. Для матар‘яльнай зацікаўленасьці ў адчыненьні гэтых устаноў Цэнтрасаюз устанавіў, у выглядзе прэміі, на кожную адчыненую навучальную ўстанову 10.000 руб.

Белкаапсаюз аднаго часу быў рашыўся ўзяцца за арганізацыю навучальных устаноў, але прапаў імпэт, і кантрольныя лічбы за 1929-30 г., паводле якіх было вызначана адчыніць 8 школ каапэрацыйна-гандлёвага вучнёўства на 480 асоб, 2-гадовыя батрацка-бядняцкія курсы на 60 асоб, 5 школмагазынаў на 125 асоб і інш., засталіся ня выкананымі. Цэнтрасаюз быў прымушаны пазбавіць Белкаапсаюз устаноўленых прэмій на суму 90.000 руб., бо Белкаапсаюз ня прымаў ніякіх сур‘ёзных захадаў для падрыхтоўкі кадраў.

Праўда, Белкаапсаюз падрыхтоўкай кадраў займаўся. Вось ужо тры гады, як праз месячныя і двухмесячныя курсы, як бліны, пякуцца тысячы каапэрацыйных працаўні-

коў, і кожны год большасьць з іх прымушаны ізноў ісьці на курсы, бо ад леташніх курсаў нічога не засталося, а з ведамі, якія далі месячныя курсы рабочаму і батраку, цяжка працаваць у каапэрацыі.

У гэтым годзе Белкаапсаюз вымушаны будзе займацца такім жа „саматужніцтвам“, бо і на сёньняшні дзень сталых стацыянарных навучальных установаў, якія-б далі добра падрыхтаваных працаўнікоў, усё яшчэ няма.

су БДУ—40 асоб і гадавыя падрыхтоўчыя курсы на 45 асоб і г. д. Акрамя гэтага, Белкаапсаюз будзе прымушаны прапусьціць у 1930-31 годзе праз кароткатэрміновыя курсы каля 7000 асоб, дзеля чаго замест ліквідаваных акрспажыўсаюзаў павінны быць створаны курсавыя базы ў іншых гарадох, бо ў Менску прапусьціць праз курсы такі лік людзей немагчыма.

Вось ужо набліжаецца навучальны год, а падрыхтоўка да адчыненьня на-



Пабудова трактарнага-гіганту ў Чалябінску

Сэктар кадраў Белкаапсаюзу на 1930-31 г. ізноў вызначыў адчыненьне 2 новых школ ФЗВ кулінараў і папаўненьне набору 3 існуючых школ, усяго на 500 асоб, арганізаваць школу ФЗВ па хлебапячэньню, двухгадовыя батрацка-бядняцкія курсы на 100 асоб, 8 школ каапэрацыйна-гандлёвага вучнёўства на 760 асоб для падрыхтоўкі працаўнікоў разьмеркавальнай сеткі, нарыхтоўшчыкаў, рахунковых працаўнікоў, 6 школ-магазынаў, намечан прыём у тэхнікум спажыўкаапэрацыі—200 асоб, на каапэрацыйнае аддзяленьне Нарга-

вучальных устаноў у Белкаапсаюзе ідзе вельмі марудна. Ёсьць рэальная пагроза, што навучальны год ізноў сарвецца, і першае, ва што ўпіраецца адчыненьне навучальных устаноў,—гэта адсутнасьць памяшканьняў. Іначай сказаць, магчымасьць атрыманьня гэтых памяшканьняў у сувязі з ліквідацыяй акруговых установаў ёсьць, але дзякуючы злачынным адносінам праўленьня Белкаапсаюзу да падрыхтоўкі кадраў нават уласныя памяшканьні спажывецкай каапэрацыі забіраюць іншыя арганізацыі, яны ідуць для іншых мэт: пад крамы, склады, пад пра-

сторныя канторы спажывецкіх таварыстваў, ЦРК, пад кватэры членаў праўленьняў, толькі не для падрыхтоўкі кадраў.

Вось, напрыклад, вялізарнейшае памяшканьне Віцебскага саюзу найбольш мэтазгодна аддаць пад канторы прыгараднага спаж. т-ва, а каапэрацыйны тэхнікум на 370 асоб, двухгадовыя батрацка-бядняцкія курсы на 100 асоб, школа КТУ на 120 асоб, курсавая база на 200 асоб круглы год для падрыхтоўкі нарыхтоўчых і рахунковых працаўнікоў застаюцца без памяшканьняў. У Магілеве памяшканьне акрспажыўсаюзу Гарсавет аддаў пад фабрыку, а курсавую базу на 240 асоб круглы год для падрыхтоўкі працаўнікоў грамадзкага харчаваньня, школу КТУ на 90 асоб, школу ФЗВ кулінараў арганізоўвай хоць на вуліцы. У Бабруйску памяшканьне акрспажыўсаюзу Гарсавет аддаў пад кантору ЦРК, акрамя гэтага, прадаставіў яму-ж яшчэ 3 двухпавярховыя дамы пад магазыны, склады і іншае, а курсавой базе на 200 асоб круглы год для падрыхтоўкі працаўнікоў прылаўку для спажыўтаварыстваў усяе Беларусі, школе КТУ, школе ФЗВ ніводнага мэтра жылой плошчы не прадастаўлена.

У Гомлі памяшканьне райсаюзу аддалі ваенведу, а школу КТУ арганізаваць няма дзе. Памяшканьне Менскага аддзяленьня БКС праўленьне мяркуе ўзяць сабе пад кватэры, а цэнтральныя пастаянна дзейнічаючыя курсы на 200 асоб круглы год зьмясьціць няма дзе. Можа праўленьне Белкаапсаюзу мяркуе ізноў зьмяшчаць курсантаў круглы год у гасьцініцах?

Маючы на мясцох пастанову СНК БССР аб прадастаўленьні 60 проц. плошчы, якая аслабаняецца ў сувязі з ліквідацыяй акруговых устаноў, пад навучальныя ўстановы, гарсаветы, мусіць, ня лічаць патрэбным існаваньне каапэрацыйных навучальных устаноў, бо ні ў якім выпадку не прадастаўляюць ім памяшканьняў.

Усе гэтыя дзеяньні гарсаветаў і мясцовых каапэрацыйных арганізацый, накіраваныя на сьвядомы зрыў падрыхтоўкі кадраў спажывецкай каапэрацыі, вядомы праўленьню Белкаапсаюзу, і яно, мусіць, лічыць гэта нармальным, бо ніякіх мер да іх урэгуляваньня ня прымае.

Мала таго, усе праекты сэктару кадраў Белкаапсаюзу, накіраваныя на забесьпячэньне школ і курсаў памяшканьнямі, праўленьнем сустракаюцца ў штыхі. Члены праўленьня Белкаапсаюзу, якія выяжджаюць у акругі па пытаньнях ліквідацыі акруговых саюзаў, нічога не зрабілі і, ня гледзячы на просьбы сэктару кадраў, не дабіваюцца перад мясцовымі арганізацыямі прадастаўленьня памяшканьняў.

Інакш, як праваапартуністычным дзеяньнем праўленьня Белкаапсаюзу ў адносінах да падрыхтоўкі кадраў гэта тлумачыць нельга. Праўленьню Белкаапсаюзу ўжо 3 гады вядома, што падрыхтоўка кадраў спажыўкаапэрацыі ўпіраецца ў адсутнасьць памяшканьняў. Адсутнасьць памяшканьняў зьядае ў бюджэце спажывецкай каапэрацыі сотні тысяч рублёў лішніх грошай, што значна ўрэзвае разьмеры вучэбна-курсавых мерапрыемстваў. Даволі, як прыклад, прывесьці, што толькі ў Менску на гасьцініцы для пражываньня курсантаў затрачана ў 1928-29 г. 20.000 руб., у 1929-30 г.— 50.000 і, пры ўмовах адсутнасьці інтэрнату, у 1930-31 г. будзе затрачана 80.000 рублёў. Аб такой безгаспадарчасьці Белкаапсаюзу ўжо не адзін раз сыгналізавалі друк і аддзел кадраў.

Здавалася-б, што пры такіх умовах Белкаапсаюзу ўжо даўно трэба было мець спэцыяльнае сталае памяшканьне пад курсы. Гэта мерапрыемства ўжо тры гады высоўваецца перад праўленьнем Белкаапсаюзу грамадзкасьцю, культсэктарам і аддзелам кадраў, але праўленьне росчаркам пяра кожны год выкрэсьлівае яго з кантрольных лічбаў. Мы ўжо не гаворым пра

акруговыя саюзы, якія таксама не адзін дзесятак тысяч рублёў высыпалі на гасьцініцы і нічога не зрабілі для набыцьця сваіх памяшканьняў.

Досыць сказаць, што, ня гледзячы на тое, што Віцебскі тэхнікум, які перададзены спажыўкаапэрацыі, зьяўляецца навучальнай установай, дзе стала рыхтуюцца спэцыялістыя сярэдняй кваліфікацыі для спаж. каапэрацыі, праўленьне пры абгаварэньні гэтага пытаньня выносіць такую пастанову, з якой відаць, што Белкаапсаюз не жадае сур'ёзна заняцца падрыхтоўкай кадраў. Адным узмахам рукі праўленьне скарачае працу тэхнікуму з 3-х на два гады, другім узмахам рукі адмаўляецца прыступіць да новага будаўніцтва памяшканьняў тэхнікуму (гэта робіцца, ня гледзячы на тое, што ў будучым годзе, калі ня будзе памяшканьняў, спыніцца прыём), трэцім узмахам рукі праўленьне зьмяншае прыём. Гэта ў той час, калі ўсе навучальныя ўстановы б'юцца за кожную падыходзячую кандыдатуру.

Усе праекты і наогул уся праца сэктару кадраў разьбіваецца аб бяздушша, аб гранітную сьцяну нядбайнасьці праўленьня Белкаапсаюзу. Калі справа даходзіць да таго, што пытаньне трэба абгаварыць на праўленьні, тут і астаноўка, тут і затрымка. Праца сэктару кадраў прадастаўлена сама сабе, без кіраўніцтва і дапамогі праўленьня. Сэктар кадраў варыцца ў сваім саку і ня можа вылезьці з свае маладой шкарупы. Ужо не гаворачы аб тым, што кіраўнік сэктару зьяўляецца вылучэнцам, і што яму даручаны адказьнейшы вучастак працы, праўленьне павінна было-б пацікавіцца, як гэты вылучэнец спраўляецца з даручанай яму працай, хоць адзін раз не ў карысьць вылучэнцаў, а ў карысьць самае працы заслухаць яго даклад аб працы. Не, гэтага ня было і зараз няма.

Вельмі яскрава характарызуе адносіны да падрыхтоўкі кадраў выступленьне адказьнейшага працаўніка, члена праўленьня, тав. Рубэна, які ў адказ на выступленьне загадчыка сэктару кадраў тав. Чавускага кажа: „зусім зразумела, што ўся ўвага зараз аддаецца хлебанарыхтоўкам, плодагародніне, асеньняй пасяўной кампаніі і г. д.“

Вельмі яскрава. Але, тав. Рубэн, скажэце, ці не падыходзіць тут характарыстыка тав. Сталіна, дадзеная на 16-м зьезьдзе партыі, ці не адчуваецца тут яўны апартунізм? Выступленьне тав. Рубэна адбівае настрой і фактычныя адносіны ўсяго праўленьня да справы падрыхтоўкі кадраў.

Трэба раз назаўсёды запомніць, што справа забесьпячэньня, паднясьця рэальнага ўзроўню зарплаты рабочых і іншыя пытаньні, зьвязаныя з палепшаньнем абслугоўваньня спажыўца, не даручаны партыяй і савецкай уладай Белкаапсаюзу на адзін дзень ці месяц.

Адсюль паўстае запытаньне праўленьню Белкаапсаюзу: ці ня лішняя наогул справа Белкаапсаюзу займацца пытаньнем падрыхтоўкі кадраў?

Як па-вашаму? Можа, хай працуюць вычышчаныя, наогул чужыя элемэнты ў нашых апаратах? Можа, хай застаюцца новыя вучасткі працы спажыўкаапэрацыі бяз сумленна падрыхтаваных працаўнікоў з рабочых батракоў, беднякоў і калгасьнікаў? Бясспрэчна, праўленьне скажа: „гэта справа палітычна важная“, і яшчэ дадасьць: „баявая“, але на справе ўсе-ж такі гэта так: падрыхтоўка кадраў—на задворках Белкаапсаюзу. Гэта праца ў загоне, гэтай працы няма належнай увагі.

Адпаведныя органы, якіх датычыцца гэта, павінны пацікавацца гэтай справай.

М. Я.

# Прамкаапэрацыйны цыкль на становішчы... бяспрытульнага

Эканамічныя кадры для сыстэмы прамкаапэрацыі рыхтуе прамыслова-каапэрацыйны цыкль факультэту народнае гаспадаркі Бел. Дзярж. Унівэрсытэту. Здавалася-б, што Белсампрамсаюз павінен зьвярнуць дастатковую ўвагу адзінай ў БССР школе гэтак неабходных эканамісгых, плянавікоў, арганізатараў. Між тым цыкль на сёньняшні дзень знаходзіцца на становішчы „бяспрытульнага“. Фармальна цыкль уваходзіць у склад каапэрацыйнага аддзяленьня, куды яшчэ ўваходзіць цыкль спажывецкае каапэрацыі, фактычна-ж цыкль са спажывецкай каапэрацыяй зусім не зьвязаны, а выключна зьвязаны з прамысловым аддзяленьнем факультэту, з якім разам праводзяцца ўсе лекцыі па аднэй праграме. Тое, што прамкаапэрацыйны цыкль адарваны ад прам. аддзяленьня, прыводзіць да таго, што праграмы і пытаньні цыклю не прапрацоўваюцца, і цыкль „кантрабандаю“ карыстаецца матар'яламі прамысловага аддзяленьня. Каб паказаць, наколькі цяперашняя арганізацыйная структура цыклю пакідае яго бяз догляду, дастаткова сказаць, што праграму летняй вытворчай практыкі выпрацоўвалі самі студэнты цыклю, бо ніхто праграмы не падрыхтаваў. Усе паказаньні студэнтаў на ненармальнасьць становішча пакуль не дапамагаюць.



Навокал пабудовы трактарнага гіганту. ў Чалябінску

Адносіны дэканату да цыклю нездавальняючыя. Вытворчую практыку студэнты цыклю лічылі неабходным правесьці на прадпрыемствах дзярж. прамысловасьці дзеля азнаямленьня з лепшай пастаноўкай працы. Ня гледзячы на згоду ВСНГБ, дэканат упарта адмовіўся паслаць студэнтаў на прадпрыемствы дзярж. прамысловасьці. Толькі цяпер дэканат у гэтай справе

пайшоў на ўступкі, але-ж характэрна, што і пытаньні вытворчай практыкі прыходзілася браць „з бою“.

Спэцыяльнымі пэдагагічнымі кадрамі цыкль зусім не забясьпечаны. У мінулым навучальным годзе важнейшыя каапэрацыйныя дысцыпліны (арганізацыя і практыка прамкаапэрацыі і статыстыка прамкаапэрацыі) былі ў поўным сэнсе слова правалены зусім непадыходзячым выкладчыкам Канёвым. У гэтым годзе яму мяркуецца даручыць яшчэ больш адказны курс — пляліаваньне прамкаапэрацыі. На пратэсты студэнтаў цыклю дэканат характэрна адказаў: „Мы вас прымусім яго слухаць“.

Увага да цыклю з боку Белсамiрамсаюзу таксама зусім недастатковая. Ні на адным пасяджэньні вытворчай нарады факультэту ня было прадстаўніка Белсампрамсаюзу. На ўсіх важнейшых пасяджэньнях унівэрсытэту прадстаўнікі Белсампрамсаюзу адсутнічалі. Старшыня праўленьня БСПС т. Брыскін ніводнага разу ня быў на цыклі.

Ня зьдзіўляюць таму і адносіны студэнцтва да цыклю: студэнтаў, якія займаюцца на цыклі, з насьмешкаю называюць „кустарямі“. На цыкль студэнты добраахвотна не жадаюць ісьці, а ідуць толькі ў „парадку дысцыплін“ — партыйнай, камсамольскай, прафсаюзнай. Ня гледзячы на вялікую патрэбнасьць у працаўнікох для прамкаапэрацыі (дастаткова сказаць, што новыя 34 райсаюзы зусім не забясьпечаны эканамістымі, а дзе інструктары-арганізатары?), на цыклі займаюцца ўсяго па 12 чал. на курсе.

Як на найбольш паказальны факт ненармальных адносін да цыклю, трэба паказаць на наступны факт: калі студэнты, скончыўшыя прамысловае аддзяленьне, набываюць па сканчэньні годнасьць інжынэраў-эканамістых, дык студэнты, скончыўшыя прамыслова-каапэрацыйны цыкль, прайшоўшыя поўнасьцю ўсю праграму прам. аддзяленьня і дадаткова некаторыя каапэрацыйныя дысцыпліны, набываюць, па думцы дэканату, толькі годнасьць... эканамістых. Гэтакае прыніжэньне кваліфікацыі студэнтаў прам.-каап. цыклю, нічым не абгрунтаванае, хвалюе студэнтаў і выклікае настрої ўцяканьня з цыклю.

Агульныя вынікі з паказанага наступныя:

1) цыкль не займае на факультэце месца, адпавядаючага значэньню саматужнай прамысловасьці ў БССР; 2) дзякуючы недастатковай ўвазе з боку дэканату і Белсамірамсаюзу, цыкль знаходзіцца ў безнаглядным стане, арганізацыйна няправільна аформлены, пэдагагічна ня ўзмоцнены; 3) адсутнасьць папулярызацыі цыклю, жаданьне прынізіць кваліфікацыю студэнтаў, канчаючых цыкль, выклікаюць адсутнасьць цягі да цыклю і нават настрої ўцяканьня.

Дзеля палепшаньня становішча, па нашай думцы, неабходна прыняць наступнае:

1) прымацаваць цыкль да прамысловага аддзяленьня, з якім цыкль арганічна зьвязан агульнай праграмай і лекцыямі (між іншым, на гэты шлях ужо пайшоў шэраг эканамічных ВНУ Ленінграду); 2) пэдагагічна ўзмацніць цыкль, адпаведнымі выкладчыкамі; 3) тэрмінова ўрэгуляваць пытаньне аб кваліфікацыі канчаючых цыкль; 4) правесьці папулярызацыйную працу вакол цыклю, пры чым Белсампрамсаюзу вызначыць асобнага працаўніка па сувязі з цыклем.

Трэба спадзявацца, што камісія ЦК УсеКП(б), якая аглядае становішча прамкаапэрацыі, зацікавіцца пытаньнем падрыхтоўкі кадраў прамкаапэрацыі і дапаможа палепшыць становішча цыклю.

**Рафальсон**

# Барацьба за прамфінплян

*(лічбы за 9 месяцаў 1929-30 году)*

Шпаркім тэмпам разьвівалася сыстэма прамкаапэрацыі БССР за мінулыя 9 месяцаў 1929/30 году, што відаць з наступных даных:

| ДАТА | Арцелі | | Крэд.-прам. т-вы | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. арцел. | Лік членаў | Кольк. т-ваў | Лік членаў | Кольк. нізавых арг | Лік членаў |
| 1/X-28 г. | 617 | 10957 | 93 | 27131 | 710 | 38088 |
| 1/X-29 г. | 799 | 18087 | 88 | 28558 | 887 | 46645 |
| 1/VII-30 г. | 1032 | 30478 | 53 | 18866 | 1085 | 49344 |
| У %% | | | | | | |
| 1/X-29 г. да 1/X 28 г. | 129,5 | 165,1 | 94,6 | 105,3 | 124,9 | 122,5 |
| 1/VII-30 г. да 1/X-29 г. | 129,2 | 168.5 | 60,2 | 66,1 | 122,3 | 105,8 |

З прыведзеных даных відаць, што абагулены сэктар сыстэмы (арцелі) узрос за 9 мес. 1929/30 г. на 68,5 проц. пры зьніжэньні каапэраваньня ў т-вах на 33,9 проц.

Апошняе тлумачыцца наступнымі акалічнасьцямі: у сувязі з узятай установкай на фарсаванае разьвіцьцё абагуленага сэктару сыстэмы арцеляй, папаўненьне ўжо існуючых арцеляй, а таксама арганізацыя новых праводзіліся ў значнай меры за кошт пераводу членаў т-ваў у арцелі. Роўным чынам недахоп сыравіны прымушаў Белсампрамсаюз ўрэзваць забесьпячэньне сыравінай саматужнікаў-адзіночак у параўнаньні з нормамі, прадугледжанымі па пляну, з прычыны чаго ўзмацняўся пераход саматужнікаў-адзіночак з т-ваў у арцелі.

Вышэй прыведзеныя паказальнікі гавораць нам аб тым, што тэмп росту каапэраваньня ў арцелі за мінулыя 9 месяцаў 29/30 году значна перавысіў гэтакі ў 1928/29 годзе.

Рост ліку членаў арцеляй склаў у 28/29 годзе 65,1 проц., а ў 29/30 г.—91,2 проц.

Калі прасачыць рост каапэраваньня ў арцелі паквартальна, дык атрымаем наступны малюнак:

| | | |
|---|---|---|
| I квартал | | 7,4% |
| II | „ | 22.3% |
| III | „ | 38,8% |

Мінулыя 9 месяцаў характарызуюцца таксама больш узмоцненым тэмпам каапэраваньня ў арцелі мястэчак і вёсак ў параўнаньні з каапэраваньнем ў гарадзкія арцелі. Так, каапэраваньне ў гарадох узрасло за час з 1/X—29 г. па 1/VII-30 г. на 58,7 проц., у мястэчках—на 69,1 проц. і ў вёсках—на 82,7 проц., пры сярэднім росьце каапэраваньня на 68,5 проц.

Узмоцнены рост каапэраваньня далі за мінулыя 9 месяцаў промыслы, якія базуюцца на мясцовай і недэфіцытнай сыравіне. У той час, як арцелі дэфіцытных промыслаў узрасьлі за 3 кварталы 29/30 году на 34,7 проц., арцелі недэфіцытных промыслаў далі рост на 119 проц

Удзельная вага арцеляй недэфіцытных промыслаў узьнялася з 40,1 проц. на 1/X-29 г. да 52,1 проц. на 1/VII-30 г.

Як жа выконваецца прамфінплян?

### I. Па каапэраваньню

Прамфінплян прадугледжваў зноў уцягнуць у арцельны сэктар сыстэмы за 1929/30 год усяго 15267 чалавек, фактычна-ж за 9 мес. 29/30 году ўцягнута ў арцелі ўсяго 12391 чал.; гэта дае выкананьне гадавога пляну на 81,1 проц.



Новы дрэваапрацоўчы камбінат у Бабруйску

Ня гледзячы на перавыкананьне пляну каапэраваньня, неабходна падкрэсьліць наступны дэфэкт у яго выкананьні: пры сярэднім выкананьні пляну каапэраваньня ў арцелях на 81,1 проц., выкананьне па дэфіцытных промыслах дае 109,9 проц. а па недэфіцытных — усяго 72,8 проц.

Перавыкананьне пляну каапэраваньня па дэфіцытных промыслах тлумачыцца ўзмоцненым разьвіцьцём пачыначна-рамонтных арцеляй, якія прылічваюцца да дэфіцытнага промыслу (як абутковы, мэталяапрацоўчы), разьвіцьцё якіх ідзе ў адпаведнасьці з маючыміся дырэктывамі партыйных і савецкіх органаў.

На першым месцы па выкананьню пляну каапэраваньня ідуць промыслы: абутковы, мэталяапрацоўчы, будаўнічых матар'ялаў і транспартны, па якіх мы бачым яго перавыкананьне. Прарыў мы маем у дрэваапрацоўчым промысьле, дзе выкананьне пляну дасягае ўсяго 37,2 проц., лесахэмічным—33,1 проц., галянтарэйным—16,7, мыцьця і збору рызьзя—48,9 проц., шапачным—49,6 проц. і панчошным—25,9 проц.

### II. Па валавой прадукцыі

Прамфінплян па валавой прадукцыі выканан за 9 мес. 29/30 году ў разьмеры 68 проц. (57712 тыс. руб. па пляну, а выканана 39450,8 тыс. руб. за 9 месяцаў).

Побач з агульным недавыкананьнем пляну па валавой прадукцыі на 7 проц. мы бачым некаторае адставаньне ў выкананьні пляну ў частцы недэфіцытных промыслаў. Так, па дэфіцытных промыслах плян па валавой прадукцыі выканан на 70,3 проц., а па недэфіцытных—на 64,7 проц.

### III. Па паянамнажэньню

Згодна пастановы СНКБ папаўненьне паёў у арцелях за 1929/30 год павінна раўняцца 1420 тыс. руб., сабрана-ж за 9 мес. б. г. усяго 678 тыс. руб. Такім чынам, кантрольныя лічбы па паянамнажэньню выкананы ўсяго на 47,8 проц. Калі паглядзім, як ідзе паянамнажэньне ў арцелях паквартальна, дык убачым, што за I квартал сабрана пачым, што за I квартал сабрана паёў 146 тыс. руб., за II кв.—249 тыс. руб. і за III—283 тыс. рублёў.

Ня гледзячы на ўзрастаючыя тэмпы паямнажэньня з кварталу ў квартал, у гэтай справе мы маем бўйны прарыў.

### IV. Па будаўнічых матар'ялах

За час з 1/X-29 г. па 15/VIII-30 г. арцелі БССР выпрацавалі апаленай цэглы ўсяго 15 міл штук Выходзячы з пастановы СНК БССР аб выпрацоўцы на працягу бягучага сэзону 35 млн. штук апаленай цэглы, выкананьне заданьня складае ўсяго 44 проц.

На IV квартал бягучага гаспадарчага году прамфінплян па арцельнаму сэктару сыстэмы прамкаапэрацыі БССР павялічан у наступных разьмерах: дадатковае каапэраваньне вызначана ў 7837 чалавек і валавая прадукцыя—у 1743 тысячы рублёў.

Такім чынам агульны лік членаў арцеляй па пляну на 1/X-30 году павінен быць 41191 чал., а сума валавой прадукцыі на 29/30 год павінна скласьці 59455 тысяч рублёў.

Выходзячы з гэтага, заданьне сыстэме на IV квартал наступнае: каапэраваньне—10713 чал. і прадукцыя—20004 тыс. рублёў.

Задачы вялікія і адказныя.

Неабходна мабілізаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага актыву сыстэмы навакол выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

Прамфінплян на 29/30 год павінен быць выкананы.

Катляроў

## Працаваць па новаму

„Мэта раёнаваньня—наблізіць апарат да раёну, сяла, каб сваячасова вырашыць набалелыя пытаньні сельскае гаспадаркі, садзейнічаць яе ўздыму, яе рэканструкцыі" (Сталін).

Сваёй пастановай XVI партзьезд вынес канчатковае рашэньне аб ліквідацыі акруг. Надзвычайная важнасьць гэтага рашэньня заключаецца ў тым, што раён атрымоўвае правa акругі, раён становіцца асяродкам кіраўніцтва. У раёны перакідваецца да 90 проц. акруговых працаўнікоў, і гэтым самым узмацняецца раён, узьнімаецца яго аўтарытэт у вачох мясцовай грамадзкасьці данага раёну.

Па нашай сыстэме працу па ліквідацыі акруг можна лічыць закончанай. Усяго ўтвораны 34 райпрамсаюзы, але справа не ў утварэньні райпрамсаюзаў. Перад нашай сыстэмай зараз стаяць агромныя задачы як па ўзмацненьню тэмпаў разьвіцьця прадукцыйнасьці працы, усямернаму папаўненьню спажывецкай сыстэмы новымі таварнымі адзінкамі, так і неадкладнаму папаўненьню рынку новымі таварамі наогул.

Рабоча-сялянскі ўрад усклаў на нашу сыстэму баявую задачу: да 1 кастрычніка гэтага году выпусьціць дадатковай прадукцыі звыш праграмы па ўсяму Саюзу на 70 мільёнаў рублёў. Дадатковую прадукцыю мы павінны даць па промыслах, працуючых на мясцовай сыравіне, адшукваючы нескарыстаныя рэсурсы, пускаючы ў ход усякага роду водкіды, брак, утыль і г. д. Гэтыя абставіны прымушаюць

работнікаў прамкаапэрацыі мабілізавацца і правесьці ўсю нашу работу на баявы лад. Нашая баявая задача сёньняшняга дню—даць максымум прадукцыі. У гэтай рабоце вялікая адказнасьць ускладаецца ня толькі на нас і на райпрамсаюзы, але і на кожнага паасобнага працаўніка арцелі. Кожны рабочы арцелі павінен ведаць свой баявы ўчастак, павінен максымальна разгарнуць ініцыятыву па адшуканьню промыслаў на мясцовай сыравіне. заказчыка, майстэрні па рамонту абутку, адзежы, сельска-гаспадарчага інвэнтару, рэчаў для хатняй патрэбы і г. д.

Хаотычнасьць у давядзеньні кантрольных лічбаў да кожнага члена арцелі, кансэрватызм і цьвёрдалобасьць асобных кіраўнікоў нашай сыстэмы, іх бюракратызм павінны быць канчаткова выжыты. Не павінна быць месца ў нашай сыстэме розным ныцікам і праваапартуністым, якія крычаць, што прамфін-



Павільён спажкаапэрацыі (экспартны аддзел)

Праўда, ніякая сыстэма ня ведае столькі цяжкасьцяй, як наша. Але патрэбна ў парадку самакрытыкі сказаць, што пры наяўнасьці ўсіх нашых цяжкасьцяй намі і да гэтага часу ня выкарыстаны ўсе вытворчыя магчымасьці. Патрэбна дабіцца раз назаўсёды ад мясцовых арганізацый большай выразнасьці ў пытаньнях забесьпячэньня сыравінай мясцовай крыніцы. Намі павінны быць выкарыстаны да максымуму ўсе сыравінныя рэсурсы, якія знаходзяцца пад нашым кіраўніцтвам: напрыклад, самазагатоўка, давальчаская сыравіна, розныя разавыя закупкі, работа на матар‘ялах плян не для нас і нашых арцеляй (арцелі „Пралетары“, „Чырвоны лаечнік“ і г. д.).

Усе як адзін мы павінны зразумець, што наша сыстэма зьяўляецца аднэй з падважнікаў па правядзеньні ў жыцьцё важнейшых дзяржаўных мерапрыемстваў, роль якой выконваецца па лініі падсобнага абслугоўваньня буйнай прамысловасьці і па лініі выкідваньня на рынак рэчаў шырокага спажываньня.

Складаньне прамфінпляпаў і іх выкананьне неабходна паставіць у нас па ўдарнаму. Работа павінна быць пастаўлена так, каб кожны

асобны працаўнік арцелі ведаў аб сваіх посьпехах і недахопах. Мала гэтага, кожны працаўнік арцелі павінен ведаць прычыны ўзьнікненьня прарываў для таго, каб своечасова сумесна з усімі астатнімі працаўнікамі ліквідаваць іх.

Патрэбна сярод саматужнікаў больш шырока паставіць культмасавую працу, выклікаць энтузыязм да работы і тым самым ператварыць нашу сыстэму ў скрозь ўдарную пад кіраўніцтвам самых рабочых.

Наш фонд прэм'яваньня за каштоўныя прапановы і розныя вынаходзтвы павінен быць выкарыстаны на 100 проц. Наша сыстэма павінна і можа гэта зрабіць. Наша сыстэма зараз трымае экзамін перад партыяй і ўрадам.

Ад правільнага і своечасовага выкананьня ўскладзеных на нас задач і баявых заданьняў залежыць наша далейшае існаваньне і разьвіцьцё. Мы павінны давесьці на справе, што наша сыстэма можа мабілізаваць свае вытворчыя сілы і магчымасьці для выкананьня ўскладзеных на нас баявых задач на адным з вучасткаў народнае гаспадаркі пралетарскай дзяржавы.

---

**І. Коськін**

## Недахопы—на суд грамадзкасьці

Арцель «Чырвоны лаечнік» налічвае ў апошні час 84 члены. У працы арцелі за апошні час пачалі выяўляцца недахопы. Як толькі друк загаварыў аб гэтых недахопах, то зараз жа заварушыўся Менсампрамсаюз, таксама заварушыліся і яго інструктары. І ня дзіва, за апошні час арцель узбагацілася яскравымі фактамі злачынства. Злачынства гэта праяўляецца вось у чым:

З аднае партыі сырамяці ў 56 скур браку аказалася 50%, з партыі сырамяці ў 190 скур—браку 10-20%, з партыі ў 83 конскіх скуры брак складае 40%, з партыі ў 67 конскіх скур брак складае 20%, з партыі ў 150 конскіх скур брак складае 30-40% і г. д.

Гэты брак выклікан сьвядомым актам злачынства з боку кіраўнікоў вытворчай арцелі.

Атрымаўшы такія трывожныя весткі, Белсампрамсаюз склікаў тэрміновы сход членаў арцелі, дзе выявіліся самыя безгаспадарчыя адносіны праўленьня арцелі да сваіх абавязкаў. Кіраўніцтва ўтваралася па тэлефону. Старшыня арцелі з габінэту званіў у арцель, а арцель да старшыні ніколі не паказвалася.

Кіраўніцтва арцельлю зусім ня цікавілася працай свае арцелі, а таксама з боку праўленьня ня было ніякага кіраўніцтва. Што датычыцца зацiску самакрытыкі, марнаваньня прапаноў рабочых і зацiску ініцыятывы, дык праўленьне арцелі можа быць пастаўлена на першае месца.

На адным сходзе рабочых старшыня арцелі на некаторыя прапановы рабочых адказаў словамі: «Вы нічога новага ня скажаце».

Кіраўніцтва, замест таго, каб вывучаць становішча вытворчасьці, займалася плёткамі. Праца па культмасаваму выхаваньню сярод рабочых арцелі зусім адсутнічала, ня гледзячы на тое, што члены арцелі штомесячна адлічвалі ад свае пэнсіі адпаведную суму ў культфонд.

Аб прамфінпляне члены арцелі зусім нічога ня ведаюць, нібы гэта арцелі не датычыцца. Менсампрамсаюз прыслаў кантрольныя лічбы, але яны не чапанымі ляжаць у стале праўленьня арцелі. Ніхто з кіраўнікоў Менсампрамсаюзу за ўсё яго існаваньне не заглянуў у арцель. Як відаць, Менсампрамсаюз лічыць непатрэбным наведваць

арцель, ён лічыць, што ў цэнтр павінны прыходзіць самі.

Абсьледваньне і рэвізію ў арцелі ні разу не вытваралі, дык і ня дзіва, што арцель дайшла да такога шкодніцтва. Сваёй пастановай праўленьне Белсампрамсаюзу распусьціла ўсё кіраўніцтва вышэйадзначанай арцелі. Справа гэта перададзена ў пракуратуру, і трэба чакаць, што адпаведныя асобы атрымаюць па заслугах. Але гэтага для нас мала. Мы патрабуем аднaчасовага прыцягненьня да адказнасьці і некаторых работнікаў Менсампрамсаюзу, вінаватых у правале работы вышэйадзначанай арцелі. Мы патрабуем тэрміновага прымацаваньня да «Чырвонага лаечніка» спэцыяльнага культінструктара, які-б разгарнуў там культмасавую выхаваўчую працу сярод членаў арцелі, патрабуем большай увагі з боку Менсампрамсаюзу ў галіне вытворчага інструктажу арцелі, патрабуем ад заводу «Бальшавік», каб ён больш цікавіўся сваімі вылучэнцамі, а не пакідаў іх на волю лёсу.

Такія прарывы ў нашай сыстэме ў далейшым нецярпімы.



На ссыпным пункце.

# Літаратурны куток

С. Гаранскі

## Першая ўсебеларуская

*(нарыс)*

Штодня можна бачыць, як на Савецкай вуліцы стаяць натоўпы народу. Тысячы прыяжджаючых дэлегатаў з розных месцаў Беларусі і іншых рэспублік, тысячы мясцовых жыхароў таўпяцца на астаноўках трамваю, каб трапіць на выстаўку. Крык, шум. Трамваі ня могуць увабраць у сябе ўсю масу. Едуць на падножках, бяруць возчыкаў, а частка накіроўваецца пяшком.

Канчаецца ўскраіна гораду. Стальныя ніткі рэек, якія ўдоўж праразаюць усю Камароўку, заканчваюцца высокай уваходнай аркай выстаўкі і ўводзяць у новы гарадок— гарадок магутных дасягненьняў працоўных Беларусі на фронце сацыялістычнага будаўніцтва за дзесяць год пасьля вызваленьня Беларусі ад белапольскай акупацыі.

Вока не ахоплівае вялікую колькасьць розных павільёнаў і вялізарную плошчу ўсяе выстаўкі. Нельга ўсяго расказаць на некалькіх старонках, што можна бачыць у гэтым сацыялістычным гарадку.

Там, дзе некалькі месяцаў назад гаманілі хвоі, дзе шумелі дзікія кусты, дзе расьсьцілалася, акрыўшыся зялёным мохам, дрыгва, аселі моцна павільёны першай усебеларускай выстаўкі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Тут зараз красуюць розныя культуры расьлін, тут зараз прадстаўлены вялізарныя дасягненьні нашае прамысловасьці.

Наогул выстаўка адлюстроўвае тыя вялізарныя посьпехі ў напрамку сацыялістычнага будаўніцтва БССР, якіх дасягнулі працоўныя дзякуючы свайму творчаму энтузыязму, пад правільным кіраўніцтвам камуністычнай партыі, на працягу дзесяці год. Працоўныя масы, аглядаючы выстаўку, убачаць, як «край гора і пакуты», край густых лясоў, пяскоў, каменьняў, гразкіх балот і азёр ператвараецца ў край дымных фабрык, шумных заводаў, у край, дзе працоўныя будуюць сацыялізм, дзе будуюць сваю нацыянальную па форме і пралетарскую па зьместу культуру.

— Кожны працоўны,—як сказаў т. Васілевіч на адчыненьні выстаўкі,—павінен цьвёрда памятаць, што мы ніколі-б ня мелі такіх вялізарных дасягненьняў без вялікай дапамогі ўсяго Савецкага Саюзу. Толькі ў цесным саюзе з усім СССР мы змаглі дасягнуць такіх посьпехаў.

— Яшчэ-ж нядаўна саха і барана,—працягвае т. Васілевіч,—панавалі на нашых палёх, а сёньня вы тут пабачыце ня толькі машыны, якія сьведчаць аб посьпехах нашай індустрыі, але і экспанаты сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, пераходзячай на больш высокую тэхніку. Вы відавочна ўпэўніцеся, што

толькі сацыялістычны сэктар— шлях да перамогі над жабрацтвам і бяскультур'ем у індывідуальнай бядняцкай і серадняцкай гаспадарках.

Тэрыторыя выстаўкі займае 75 га. На гэтай тэрыторыі раскінуты 72 павільёны. Кожны павільён сваім вонкавым выглядам адбівае тэхнічныя працэсы і свой унутраны зьмест.

Таксама добра прадстаўлены і кідаецца ў вочы павільён прамысловасьці, над якім высока ўзьняліся фабрычныя каміны і будаўнічыя фэрмы. Унутры павільёну і ў адчыненай паветцы каля яго разьмешчаны машыны і варштаты—вырабы беларускіх фабрык і заводаў. Сьвідравальныя і такарныя варштаты, абсталяваньне для крухмальных заводаў, бэтонамяшалкі, камнядрабілкі—вырабу заводаў «Камунар», «Энэргія» і «Пралетары»—сьведчаць аб тым, што нашы фабрыкі і заводы навучыліся вырабляць машыны для будаўніцтва і абсталяваньня новых прадпрыемстваў. Тут жа ёсьць шмат розных машын, якія дапасоўваюцца да сельскай гаспадаркі.

Прыемна блішчыць сваімі новымі часткамі сіласарэзка Гомельскага заводу сельска-гаспадарчых машын, які выпускае сіласарэзкі ня толькі для БССР, але і для аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі ўсяго Саюзу.

За аддзелам мэталяаб'яднаньня знаходзіцца тарфяны аддзел. Ён дакладна паказвае, якое значэньне мае торф, як апал і як будаўнічы матар'ял. Тут паказваецца, што торф можна ўжываць ня толькі для апалу, а і для будоўлі, для выкладкі сьцен. Ён зьніжае кошт будынку і дае вялікую эканомію цэглы.




Фасад выстаўкі

Значнае месца ў павільёне прамысловасьці займаюць скураная, шкляная, тутунёвая, швейная, хэмічная, харчовая і горная вытворчасьці. Яны знайшлі свой адбітак у адпаведных экспанатах і ў досыць выразных дыяграмах. Усё разам адлюстроўвае вялізарны рост розных галін прамысловасьці БССР.

Недалёка ад прамысловага павільёну—павільён саматужнай і мясцовай прамысловасьці, Дзяржаб'яднаньня, Лесбелу, Белмэдгандлю, Чырвонага Крыжу, каапэрацыі, друку, Белдзяржкіно. Усё гэта сьведкі вялікіх посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі.

Асабліва ўражаньне робіць павільён каапэрацыі Беларусі. Ён падзяляецца на чатыры аддзелы: «Новы быт», «Радыё-кіно», «Кніга—масам» і Агульны.

У аддзеле «Новы быт» мэтадам супроцьпастаўленьня новага быту старому выяўляюцца тыя вялізарныя дасягненьні ў галіне выхаваньня працоўных і іх дзяцей, якія мае каапэрацыя Беларусі з пачатку свайго існаваньня да сёньняшняга дня. Тут прадстаўлены характэрныя рысы старога быту, які спрыяў розным хваробам, які распаўсюджваў дух эксплёатацыі, і побач з ім—новы быт, які выхоўвае насельніцтва ў інтэрнацыянальным напрамку.

Аддзел «Радыё-кіно» сьведчыць аб шпаркім разьвіцьці гэтай галіны тэхнікі ў нашай сёньняшняй вёсцы. Калі раней вёска ня мела ніякага ўяўленьня аб радыё і кіно, дык сёньня амаль кожны калгас, вёска маюць радыё-прыёмнік, маюць стацыянаркі і кіно-перасоўкі.

Аддзел «Кніга—масам» паказвае, якое значэньне мае кніга ў выхаваньні вёскі, як і якая кніга распаўсюджваецца сярод насельніцтва. Гэтыя тры аддзелы сьведчаць аб тым, што каапэрацыйная арганізацыя Беларусі вядзе вялікую працу ня толькі ў напрамку гандлю, таварапамену, а і праводзіць вялікую культурна-выхаваўчую працу сярод працоўнага насельніцтва Беларусі ў напрамку інтэрнацыянальнага выхаваньня.

У агульным аддзеле шляхам дыяграм, экспанатаў і мадэляў дэманструюцца перад экскурсантамі дасягненьні каапэрацыйнага гандлю, гандлю за мяжой, а таксама рост каапэрацыйнага будаўніцтва. Тут знаходзіцца мадэль Гомельскага хлебазаводу, які за адны суткі выпякае чатыры тысячы пудоў хлеба, пры 36 рабочых. Гэты завод поўнасьцю мэханізаваны. У машыну паступае мука, а праз адну гадзіну 45 хвілін выходзіць гатовы хлеб.

Дыяграмы сьведчаць аб вялізарным росьце крам каапэрацыйнай сеткі. Калі ў 1923 годзе па Беларусі налічвалася 1024 крамы, то ў 1930 г. мы маем 3140. Гэта кажа аб тым, што каапэрацыя наблізілася да спажыўца.

Зварот каапэрацыі ў 1926-27 годзе складаў 135 мільёнаў рублёў, а на 1929-30 г.—395 мільёнаў рублёў.

Каапэравана насельніцтва ў 1923 г. па вёсцы 63 тыс., а па гораду—32 тыс. У 1930 г. па вёсцы каапэравана 915 тыс., а па гораду—250 тыс. Усё гэта гаворыць аб вялікай працы, праробленай каапэрацыяй БССР. У каапэрацыйным павільёне ўвесь рост паказан досыць выпукла, і кожны экскурсант зможа атрымаць уяўленьне аб дасягненьнях нашай Беларускай рэспублікі на фронце каапэрацыі.

Шмат цікавага паказвае сэктар сельскай гаспадаркі. Ураджай жыта на палёх выстаўкі дасягае 180 пудоў на гэктар. Тут сіласныя культуры, гатунковы авёс, жыта-пшанічныя гібрыды, гатунковае жыта, зімовы ячмень, ватачнік, побач вялікія гароды і малады сад, а таксама розныя кватнікі. З кветак зроблена карта БССР. З кветак высаджан сонечны гадзіньнік і каляндар.

Абагулены сэктар сельскае гаспадаркі прыслаў вельмі шмат цікавых экспанатаў жывёлы, якія сьведчаць аб сапраўдным шпаркім росьце нашай маладой калектыўнай гаспадаркі, нашай калектыўнай культуры.

Сярод прысланых экспанатаў можна бачыць: чырвоных беларускіх кароў, коняй ардэнскай пароды, трусоў, авечак, розных парод сьвіней і інш. хатнюю жывёлу.

Усе памяшканьні для скаціны абсталяваны па мэханічнаму прынцыпу. Каля кожнай каровы фанталь-

ная пайка, кожная карова доіцца машынай. Корм у хлявы з складаў падаецца таксама машынай і машынай падрыхтоўваецца.

У павільёне сельскай гаспадаркі ёсьць таксама шмат экспанатаў зямляных культур. Тут паказваецца, як можна вырасьціць яравыя культуры на прэснай глебе са штучным угнаеньнем. Акрамя гэтага, дэманструюцца гародныя культуры, ягадныя лекавыя расьліны Магілеўскай дасьледчай станцыі.

гаспадарцы. Яны пераканаюцца, што, толькі абагуліўшы сродкі вытворчасьці, толькі праз калектыўную гаспадарку, праз электрыфікацыю і машынізацыю яе можна перамагчы ўсе цяжкасьці, можна дасягнуць нябачаных ураджаяў і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі. Толькі ідучы па гэтым шляху, працоўныя масы палепшаць свае культурна-бытавыя ўмовы і стануць кіраўнікамі ўсяго прыроднага багацьця.



Павільён прамысловасьці

На выстаўцы працуюць дзьве сталоўкі МЦРК для абслугоўваньня экскурсантаў і служачых выстаўкі. Адна з іх прапускае 1800 чалавек, а другая—5.000 чалавек.

Пасярэдзіне тэрыторыі выстаўкі пабудована вялікая вежа для пражэктараў, якія асьвятляюць усе павільёны і тэрыторыю выстаўкі.

Бедднякі, калгасьнікі і серадннякі на выстаўцы змогуць убачыць тыя дасягненьні, якія мае Беларусь за нязначны кавалак часу, убачыць вялікую карысьць у аграмаджанай

У гэтым сэнсе выстаўка дасьць шмат практычных, наглядных парад працоўным, якія ідуць па шляху да сацыялізму.

На выстаўцы кожны працоўны ўбачыць частку свае працы, якая шчыльна злучана з працай іншых рабочых і цалкам адлюстроўвае дасягненьні працоўных Беларусі. Кожны працоўны ўбачыць, што яго рух падштурхоўвае цягнік, які так шпарка імчыцца ў лепшую будучыню—да сацыялізму.




Перад Міколам Уладзімеравічам стаяла цяпер адно: ці зусім адмовіцца ад службы, ці ехаць па прызначэньню. Інакшага выбару не магло быць.

І Чарток, Мікола Ўладзімеравіч, варочаючыся цяпер да хаты, быў заняты толькі гэтымі думкамі. У яго быў цэлы шэраг довадаў за свае пляны, але ў камісіі па ўкамплектаваньні штатаў прызналі іх ня грунтоўнымі. Таму і ня ў гуморы ішоў Мікола Ўладзімеравіч з паседжаньня.

«І заўсёды так неяк вядзецца: калі не павязе зранку, дык і пад вечар тое самае»—мільгае ў яго думка. Ён больш спыняецца на гэтай думцы, разглядае яе са ўсіх бакоў, падбірае жыцьцёвыя факты і пераконваецца, што сапраўды яно так у рачаіснасьці.

Два месяцы таму назад таварыш Чарток па свайму жаданьню і пры некаторым хадайніцтве сябра школьнае лаўкі быў пераведзены на працу з аднае ўстановы акругавага маштабу ў цэнтральную.

На новым месцы Мікола Ўладзімеравіч адчуў сябе больш вольна. Працы, праўда, прыбавілася, але гэта яго не палохала, а перавод у сталіцу даў вялікае задавальненьне і ўпэўненасьць ў лепшай будучыне.

— Як сабе ні кажы, а ўсё-ж не зраўняеш жыцьцё гораду і раёну—даводзіў Мікола Ўладзімеравіч свайму сябру на пяты дзень па прыезьдзе ў горад. Ён пералічваў яму ўсе выгоды гарадзкога жыцьця перад раённым і быў упэўнены ў сваіх довадах. Такімі развважаньнямі ён хацеў яшчэ лішні раз давесьці сваю ўдзячнасьць Лапіну, а таму, калі той спрабаваў пярэчыць, дык Мікола Ўладзімеравіч не даваў разгарнуцца:

— Пакінь, пакінь Павал Ігнатавіч, пра гэта, ведаю я раён, хоць па камандыроўках, я толькі табе гэтак кажу, а дзе патрэбна, дык я сам падахвочваю тых, каго пасылаюць туды.

— А мне здаецца, што там лепш працаваць. Менш шуму, беганіны ўсякае, бліжэй кватэра, прырода вакол са ўсім хараством, а трактарны гул напамінае гарадзкія гудкі. Ну чым гэта горш за гарадзкое жыцьцё?—ставіў пытаньне ва ўпор Лапін. Мікола Ўладзімеравіч у такіх выпадках падшукваў новыя аргумэнты, але Павал Ігнатавіч асьмейваў іх:

— Ну, падумаць толькі—бандытаў баіцца. Што гэта табе дваццатыя ці дваццаць першы год, а калі там гразь на вуліцах, дык яе тратуарамі абыйсьці можна, а калі і тратуараў няма, дык аддзел камунальнае гаспадаркі паклапоціцца аб гэтым.

Загнаны ў тупік контр-довадамі свайго сябра, Мікола Ўладзімеравіч пераравёў гутарку на другую тэму, а пасьля таго больш ня імкнуўся распачынаць аб гэтым пры сустрэчах. Ён лічыў больш мэтазгодным пагаварыць аб кіно-карцінах, падзяліцца навінамі газэт.

***

У працы Міколу Ўладзімеравічу не вязло, як ён характарызаваў гэта сам, апавядаючы пра сваё жыцьцё. Толькі ён прывыкне дзе-небудзь да сталае працы, як там пачынаюцца то скарачэньне штатаў, то перавод па прафэсіянальнай лініі на другую працу або проста ліквідацыя ўстановы. Адным словам,

больш году ён нідзе за сваe восем год службы не прабыў на адным месцы.

І цяпер, калі ўжо Мікола Ўладзімеравіч прызвычаіўся да працы, яго напаткаў такі-ж лёс.



Справа абстаяла так: у чэрвені месяцы Макар Грыгоравіч падаў у праўленьне ўстановы заяву, у якой прасіў накіраваць на лячэньне ці, як ён пісаў, аздаравіць арганізм. На паседжаньні праўленьня яго накіравалі на агляд. Дактары ў адзін з чэрвеньскіх вечароў аслухалі ўважліва яго і прыпісалі паўтарамесячнае курортнае лячэньне.

Макар Грыгоравіч, доўга не адкладваючы, дастаў патрэбныя дакуманты, атрымаў водпуск і паехаў на поўдзень ці, як апавядаў ён вярнуўшыся, туды, дзе вечна плешчацца мора.

Тады паўстала пытаньне, кім замяніць таварыша Стрэльскага. Павал Ігнатавіч, доўга ня думаючы, парадзіў свайго сябра, а яму ў сваю чаргу напісаў, каб падаў заяву на вольнае месца, раней уладзіўшы справу ў сваёй установе.

На трэці дзень, пасьля прыезду Міколы Ўладзімеравіча ў горад, Лапін, вярнуўшыся з камандыроўкі, застаў яго на сваёй кватэры.

— Я тут, як гаспадар, распараджаюся ў цябе,—спаткаў ён Паўла Ігнатавіча.

— Ну, і добра, чаго-ж сьцясьняцца ў сваёй бацькаўшчыне,—пахваліў Лапін.

У той вечар Павал Ігнатавіч, будучы ў вясёлым настроі з прычыны прыезду сябра, гаварыў:

— Тут, брат, калі павязе, дык ты доўга можаш папрацаваць. Хутка, як бачыш, рэарганізацыя, укамплектаваньне штату пачнецца. Вернецца Стрэльскі, дык цябе на другую пасаду перавядуць. Глядзець толькі трэба службы, каб усё было ў парадку, пільнавацца яе, працаваць не за страх, а за сумленьне.

— Мяне, брат, на гэта вучыць ня трэба. Я, ведаеш, чалавек службовы, прызвычаены да працы, да начальства.

Яны, як старыя сябры, шмат часу ня бачыўшы адзін другога па сканчэньні сярэдняе вучэбнае ўстановы, многа гаварылі ў той вечар, позна сядзелі пры адчыненым вакне, успаміналі ранейшыя гады, апавядалі адзін другому аб навінах, аб перажытым.

**
*

Пры ўкамплектаваньні штатаў раённых устаноў камісія не абмінула і Міколу Ўладзімеравіча.

— Паколькі Стрэльскі варочаецца праз два тыдні з курорту, я думаю, нам трэба вырашыць пытаньне з таварышам Чартком. Тут пакінуць—няма такоўскіх месц, а ён, як апраўдўшы сябе на працы, будзе добры работнік і для раёну. Я думаю, нікога супроць гэтага няма?—сказаў старшыня пасяджэньня.

«Ніяк ім ня ўгодзіш—мільганула думка: і працуй добра, дык дрэнна для сябе, і дрэнна працуй, дык не паздаровіцца». Мікола Ўладзімеравіч не чакаў такой пастаноўкі пытаньня і ледзь ня выказаў гэтае думкі ў голас, а пасьля, сабраўшыся з сіламі, сказаў:

— Я маю сказаць некалькі слоў. Я вельмі здаволены, што мяне лічыце работнікам, апраўдаўшым ся-

бе, і з вялікаю ахвотаю паехаў бы на працу ў раён, але шэраг прычын прымушаюць мяне застацца ў горадзе яшчэ на некаторы час.

— Якія іменна?

— Сам от я толькі на погляд здаровы чалавек, а фактычна ўжо гры месяцы знаходжуся пад наглядам сухотнага дыспансэру.

— Я не сказаў-бы гэта—кінуў хтосьці рэпліку.

— Я і кажу, што мой знадворны выгляд і ўнутраны—дзьве вялікія розьніцы.



— Гэта можа быць, ахвотна веру,—сказаў старшыня, ледзь-ледзь усьміхнуўшыся,—на словах вы вельмі рады, што вас пасылаюць, ахвотна едзеце, а ў сапраўднасьці другое, бо ня трэба забывацца, узбуйненьне раёнаў павялічвае ў ім і доктарскі пэрсанал, дзе вы зможаце быць пад наглядам.

— У мяне тут, бачыце, акрамя гэтага, сястра ў больніцы, у якой...—спрабаваў далей даводзіць Чарток, але яго перапыніў старшыня:

— У нас яшчэ шмат спраў для вырашэньня. Калі вы нездаволены пастановаю, падайце скаргу на імя камісіі...

Мікола Ўладзімеравіч пасядзеў яшчэ некалькі хвілін, а пасьля паціху вышаў на калідор. З сумным выглядам на твары вярнуўся ён да хаты, ніколі не чакаючы, што справа павярнецца ў такі бок.

***

Заўтрашні выходны дзень Чарток вырашыў скарыстаць на ажыцьцяўленьне нястрачанае яшчэ надзеі—застацца ў горадзе. А сёньня ён доўга хадзіў па сваім невялічкім пакойчыку, скурыў некалькі папірос «Колгоспу», атрыманых сёньня з каапэрацыі, браўся чытаць газэту, але нічога ня выходзіла, тады ён лёг на дыванчык, прыкруціўшы кнот у лямпе, і аддаўся разважаньням.

Раніцай назаўтра Мікола Ўладзімеравіч вырашыў адразу схадзіць да Лапіна за парадаю:

«Усе, што будзе ад яго залежаць, ён зробіць»—думаў, ідучы, Чарток, але на першым кроку яму не павязло—Лапіна ня было дома. Гаспадыня ветліва спаткала яго і паведаміла, што ўжо дзесяты дзень, як Павал Ігнатавіч не варочаецца з камандыроўкі.

«Хаця каб чаго з ім не здарылася; усё можа быць»—мільганула думка ў Міколы Ўладзімеравіча.

Адтуль ён накіраваўся да сябра па ранейшай службе. Спаткаліся яны на вуліцы. Той некуды сьпяшаўся на пасяджэньне. У кароткіх рысах азнаёміў ён з ходам усяе справы і прасіў у сябра парады.

— Ты ведаеш, брат, з гэтага піва квасу ня зробіш—уважліва выслухаўшы Міколу Ўладзімеравіча, адказаў таварыш і пачаў даводзіць немэтазгоднасьць усіх хадайніцтваў.

— Ты от паслухай: раёнам працаўнікі патрэбны?— Патрэбны. Пастанова аб камандыраваньні 90 процантаў працаўнікоў акругі ў раён ёсьць?—Ёсьць.

— Дык гэта акруговых, а я-ж у цэнтральнай служу.

— Цэнтральная рэарганізуецца таксама. Частка акруговых трапляе ў цэнтральную ўстанову, а адтуль едуць на раёны.

— Дык чаму гэта іменна мне выпала ехаць?

— А чаму другому, а не табе? Ды ты-ж не адзін едзеш, мусіць?

— І ты гэтак гаворыш, а нябось, каб самому так папала, дык іначай загаварыў-бы.

— Нічога не загаварыў-бы, а сеў і паехаў-бы. Раз ты хочаш працаваць і любіш гэту працу, дык нішто не павінна цябе палохаць.

— Гэта я і сам разумею. А ўсё-ж горад...

— І там будзеце будаваць горад, ператвараць жыцьцё на новыя рэйкі,—ня даў дакончыць Міколу Ўладзімеравічу сябра і на хаду, сьпяшаючыся кудысьці, сказаў:



— Жадаю посьпехаў у працы. Едзь, працуй. Там разгон шырокі...

І міжвольна ад шчырага сэрца ў яго вырваўся адказ сябру:

— Дзякую за пажаданьне,—нібы ён сапраўды прыходзіў разьвітацца з ім перад ад'ездам.

***

Узяўшы ад разносчыка ліст для Міколы Ўладзімеравіча, гаспадыня палажыла на яго падушку.

— Вось будзе радасьці хлопцу, напэўна, каханка якая—падумала яна.

Атрыманы ліст разьвеяў невясёлы настрой Міколы Ўладзімеравіча, створаны дзённымі няўдачамі.

Раней чым расьпячатаць, ён паглядзеў на пячатку *Боркі*. Падумаў, хто там знаёмы ў яго, бо з родных у Міколы Ўладзімеравіча быў толькі брат на Каўказе, хацеў прыпомніць па почарку, але нічога ня выходзіла. Тады пачаў адрываць маленькімі кавалачкамі правы бок канвэрту.

— Што такое?—«твой Паўлік»—і бегла пачаў чытаць ліст, а калі ўпэўніўся, ў чым справа, пачаў перачытваць другі раз...

«...і выехаў я, як бачыш, неяк нечакана. Я заходзіў да цябе, але нікога ў вас не застаў дома, тады вырашыў напісаць табе пісульку адтуль. Сёмы дзень, як я працую на раёне. Нішто. Весела. Працы хапае, а таму і не заўважаеш ніякае гразі. (помніш, аб чым ты бедаваў). З культасьветных навін магу табе паведаміць—будуецца новае кіно на 400 чалавек. Як справа з табою? Калі будуць пасылаць на раён, дык прасіся да мяне. Будзем жыць ня горш, чым у горадзе. Хутка я буду сам у Менску, прыеду ўладжваць справы з кватэрай—тады і загляну да цябе...»

Ліст зрабіў адваротнае ўражаньне на Міколу Ўладзімеравіча, перабудаваў яго думку на новы лад, накіраваў па шляху заахвочваньня.

***

У ўстанове Міколу Ўладзімеравіча першым ўбачыў Цапкоў. Гэта быў вельмі далікатны чалавек. Ён ветліва прывітаў таварыша па ўстанове, спытаў аб здароўі і нейкім ціхім, нібы гэта быў сакрэт, голасам сказаў:

— Вас таксама ў раён накіроўваюць.

— Адкуль вы ведаеце?

— Сьпіскі вісяць, Мікола Ўладзімеравіч. Чорным па беламу надрукавана.




Чарток разам з другімі падышоў да «Дошкі аб'яў», прачытаў прозь-

вішчы накіроўваемых, убачыў сваё, і з нейкаю гордасьцю, задавальненьнем сказаў ня то сабе, ня то да ўсіх прысутных:

— Паедзем, значыць, на раён. Будзем працаваць у нізох, у масах круціцца, голас адтуль падаваць свой.

У гэты дзень Мікола Уладзімеравіч быў у прыпаднятым настроі. Часта так бывае: тое, чаго баішся, што здаецца страшным, робіцца нейкім мілым, блізкім, калі толькі цьвёрда вырашыш, што ты яго пераможаш. Так было сёньня і з Чартком.

І калі, праходзячы каля стала Міколы Ўладзімеравіча, старшыня камісіі па рэарганізацыі апарату ўстановы спытаў:

— Ну, як таварыш Чарток, вырашылі з ад'ездам?—ён атрымаў упэўнены адказ:

— Еду, таварыш Сцёпін. Хаця я ніколі і не працаваў на раёне, але еду. Думаю, прывыкну там.

— Дзіва, што прывыкнеце. Трэба толькі працы аддацца як сьлед, а там усё само прыложыцца.

— Дык вас павіншаваць можна з ад'ездам,—сказаў сусед з бакавога стала.

— Можаце,—усьміхнуўся Чарток.

— Там ужо папрацуеце ў ахвоту, Мікола Ўладзімеравіч, ня будуць кожны год перакідваць з месца на месца. Можа, і ажэніцеся нават.

— Усё можа быць, усё можа быць. Чаго толькі з чалавекам ня бывае,—адказаў з усьмешкаю Мікола Ўладзімеравіч.

---

**„Арганізацыя наступленьня сацыялізму па ўсяму фронту—вось якая задача пастаўлена перад намі пры разгортваньні работы па рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі“.**

**(Сталін).**

# На мясцох

А. С.

## Каапэрацыя і адзінаасобнікі

Пастановы партыі аб неабходнасьці (ў асноўным) калектывізацыі да канца пяцігодкі сельскае гаспадаркі нашага Саюзу, з асаблівай выразнасьцю адбітай у рашэньнях XVI зьезду ЎсеКП(б), ставяць адпаведныя задачы і перад каапэрацыяй, як перад аднэй з форм і сродкаў падрыхтоўкі батрацкага і бядняцка-серадняцкага насельніцтва нашае вёскі да гэтай справы палітычнага значэньня. І імена ў сьвятле гэтых задач праца каапэрацыі ў гэтым напрамку набывае надзвычайна вялікае практычнае значэньне і патрабуе надзвычайна выразнае палітычнае накіраванасьці наогул, а ў пытаньнях абслугоўваньня адзінаасобнікаў у прыватнасьці. Апошняе нездарма-ж прадугледжана і ў мерапрыемствах партыі, якія вымагаюць неабходнасьці рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнае сыстэмы ў дачыненьні дапасаваньня гэтае сыстэмы да задач бягучага моманту. Нездарма-ж і ЦК партыі, на падставе рашэньняў XVI зьезду, у сваёй пастанове па адзначанаму пытаньню прапануе: «Усё арганізацыйнае і вытворчае кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам у раёне згуртаваць у адзіным райкалгасе, *а ўсю працу па вытворчаму каапэраваньню і абслугоўваньню адзінаасобных сялянскіх гаспадарак* (падкрэсьлена намі —А. С.), а таксама нарыхтоўча-збытавыя функцыі і функцыі забясьпечаньня (снабжэнчаскія) у адносінах да ўсіх калгасаў, каапэраваных гаспадарак і адзінаасобнікаў згуртаваць у адзіным райкаапсаюзе».

Такім чынам сутнасьць гэтае пастановы зводзіцца перш за ўсё да неабходнасьці выразнага разьмежаваньня функцый у пытаньнях арганізацыі і кіраўніцтва сацыялістычнаю перабудоваю сельскае гаспадаркі паміж райкалгасамі, з аднаго боку, і райкаапсаюзамі—з другога. А гэта апошняе мае вялікае практычнае значэньне, бо дае мажлівасьць ўсебакова ахапіць той працэс і той сацыяльны зрух, што зараз адбываецца ў нашай вёсцы і сваё канкрэтнае вызначэньне знаходзіць у імкненьні асноўных бядняцка-серадняцкіх мас перайсьці да новых, калектыўных форм вядзеньня свае гаспадаркі.

Але імена гэтае-ж палажэньне з дастатковай выразнасьцю акрэсьлівае і ролю с.-г. каапэрацыі, паколькі на яе абавязак прыпадае акурат вытворча-арганізацыйная праца сярод тае часткі вёскі, якая на сёньняшні дзень яшчэ не ўвайшла ў калгасы ды арцелі, але прадстаўнікоў якое тав. Якаўлеў у сваім дакладзе на XVI зьезьдзе абазаваў «завтрашними колхозниками». З гэтае прычыны кожнай каапэрацыйнай арганізацыі, кожнаму каапэрацыйнаму работніку, асабліва на мясцох, неабходна перш за ўсё дасканала ўявіць сабе сутнасьць і важнасьць правільных узаемаадносін з адзінаасобнікамі—«будучымі калгасьнікамі», бо гэтыя ўзаемаадносіны, як прынцып, павінны зьяўляцца кіруючым момантам у практычнай працы кожнае каапэрацыйнае арганізацыі, кожнага каапэрацыйнага працаўніка ўпаасобку. Сэнс гэтых узаемаадносін, дадзеных партыяй у

шэрагу яе пастаноў, у прыватнасьці, дадзены і ў пастановах па гэтым пытаньні 16 зьезду ЎсеКП(б). У асноўным гэтыя пастановы прадугледжваюць неабходнасьць зьнішчэньня погляду на селяніна (бедняка і серадняка), што сёньня знаходзіцца яшчэ па-за межамі калгасу, як на ворага і супрацоўніка савецкай улады. Апошняе набывае вялікае значэньне менавіта зараз, калі каапэрацыя на справе павінна зьяўляцца ня толькі месцам



Чырвоны абоз

(памяшканьнем), дзе разьмяркоўваюцца розныя прам. тавары, як гэта было дагэтуль, але і павінна гуртаваць вакол сябе некалектывізаваныя масы сялянства з мэтаю ўцягненьня іх у прасьцейшыя віды калектыўных аб'яднаньняў (арганізацыі вытворчых с.-г. таварыстваў, арцеляй і інш.).

А з тае прычыны, што перад каапэрацыяй на даным этапе яе разьвіцьця ў адносінах да абслугоўваньня насельніцтва стаяць іменна гэтыя задачы, яна павінна зараз жа заняцца іх ажыцьцяўленьнем, бо з пункту гледжаньня задач агульнае калектывізацыі і, на гэтай аснове, ліквідацыі кулацтва як клясы каапэрацыйна-вытворчае абслугоўваньне індывідуальных сялянскіх гаспадарак набывае выключнае значэньне, бо фактычна зьяўляецца адным з момантаў зьдзейсьненьня лёзунгу агульнае калектывізацыі.

Практычнымі мерапрыемствамі з боку каапэрацыі ў гэтым напрамку павінны зьяўляцца мерапрыемствы, накіраваныя на разгортваньне культурна-выхаваўчае працы ў тых паселішчах і вёсках, якія не аб'ядналіся яшчэ ў арцелі—калгасы, шляхам арганізацыі ў іх хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных куткоў, кіно-перасовак і інш., а таксама шляхам наладжваньня лекцый, гутарак, ствараючы для гэтае мэты шырокую сетку каапэрацыйных агразооўпаўнаважаных у парадку грамадзкае нагрузкі. Патрэбна арганізацыя вакол каапэрацыі груп беднаты, з мэтаю прыцягненьня іх да працы ў першапачатковых формах калектыўных гаспадарак, арганізуемых адначасова з гэтым пад кіраўніцтвам і па ініцыятыве каапэрацыі, прыцягненьня да ўдзелу ў каапэрацыйнае кіраўніцтва адзінаасобнікаў-актывістых і інш. Нарэшце—і самае галоўнае — арганізацыя на сродкі каапэрацыі конна-трактарных станцый для абслугоўваньня ня толькі калектыўных, але і індывідуальных сялянскіх гаспадарак, пры ўсямерным спрыяньні пашырэньню кантрактакцыі апошніх.

Але пры ўсім гэтым каапэрацыйным арганізацыям і працаўнікам, асабліва на мясцох, трэба памятаць, што ўся праца іх павінна праводзіцца з пункту гледжаньня зьдзейсьненьня аднае задачы — задачы агульнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі СССР да канца пяцігодкі.

С. Лодысеў

# Малочная гаспадарка Аршаншчыны патрабуе ўвагі

У сувязі з напружаным становішчам з задавальненьнем гарадоў і рабочых цэнтраў прадуктамі харчаваньня, асабліва тлушчамі, пытаньне разьвіцьця прамысловае малочнае гаспадаркі ў сучасны момант набывае найважнейшае значэньне. На гэта пытаньне павінна быць зьвернута належная ўвага як з боку ўсіх савецкіх, так і грамадзкіх арганізацый; трэба мабілізаваць увагу шырокай грамадзкасьці рабочых, батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі навокал задач па арганізацыі сацыялістычных мяса-малочных гаспадарак.

У Аршанскай акрузе ёсьць усе падставы і база для арганізацыі прамысловай малочнай гаспадаркі (шырокая сетка калгасаў, жывёлагадоўчы ўхіл акругі і г. д.), але калгасна-каапэрацыйная сыстэма, зямельныя органы, райвыканкомы і сельсаветы і да апошняга часу не ўдзяляюць гэтаму пытаньню досыць сур'ёзнай і сталай увагі.

Вылучаныя для спэцыялізацыі ў малочным напрамку 24 калектыўныя гаспадаркі з лікам 1.464 кароў арганізацыйна і гаспадарчы яшчэ не замацаваліся, недастаткова забясьпечаны крэдытамі на будаўніцтва і набыцьцё жывёлы, не наладжаны ў іх правільны догляд за жывёлаю, ня выкарыстаны шырокія магчымасьці ў справе прыцягненьня вольных сродкаў насельніцтва і шмат чаго іншага.

Далей у значнай частцы калгасаў, вылучаных для спэцыялізацыі, дзякуючы спазьненьню з вызначэньнем асноўнай галіны іх гаспадаркі, вясеньні сеў ня быў увязаны з асноўным напрамкам гаспадаркі, што стварыла пагрозу забесьпячэньню кармамі стада у калгасаў. Райвыканкомы павінны ў далейшым зьнішчыць гэтыя недахопы.

Трэба сказаць, што з боку малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі, райвыканкомаў і сельсаветаў поўнасьцю адсутнічае работа ў галіне вытворчага каапэраваньня батрацтва, беднаты, серадняцтва (каапэравана 6,6 проц. сялянскіх двароў), а таксама па арганізацыйнаму і гаспадарчаму іх абслугоўваньню. Тут работа павінна быць узмоцнена шляхам арганізацыі пасялковых таварыстваў, мабілізацыі сродкаў насельніцтва, забясьпечыўшы цьвёрдае кіраўніцтва ў існуючых пасялковых вытворчых таварыствах (такіх таварыстваў у акрузе 32), прыцягнуўшы ў кіруючыя органы таварыстваў беднату і серадняцтва. Неабходна скарыстаць гаспадарчую практыку апошніх і ўсямерна садзейнічаць гаспадарчаму разьвіцьцю таварыстваў у тым, каб у мінімальна-кароткі тэрмін арганізаваныя таварыствы перавесьці ў сельска-гаспадарчыя арцелі.

Як райвыканкомы, так і сельскія саветы павінны весьці арганізацыю пасялковых вытворчых таварыстваў у такім напрамку, каб у кожным арганізаваным таварыстве ў першую чаргу была забясьпечана пабудова грамадзкіх сіласных установак, скотных двароў, наладжаны правільны догляд за жывёлаю і гадоўляю маладняка.

У сувязі з слабою працаю сыстэмы малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі па збору малака як у індывідуальным, так і ў калгасным сэктарох, вялікім разыходжаньнем загатоўчых цэн з цэнамі рынку (загатоўчая цана 8-10 кап. літр, а рыначная—40-45 кап. літр), агульным зьмяншэньнем пагалоўя буйнае рагатае жывёлы ў параўнаньні з мінулым годам, зусім няўважлівымі адносінамі з боку райвыканкомаў і сельсаветаў да выкананьня вы-

значаных мерапрыемстваў па разьвіцьцю малочнай гаспадаркі масласырзаводы зусім слаба нагружаны сырцом (сярэдняя нагрузка 40%), што, бязумоўна, патражае выкананьню пляну масла-сыразагатовак.

Дрэнна яшчэ і тое, што з боку некаторых раённых устаноў і арганізацый наглядаюцца тэндэнцыі мясцовага характару, якія выражаюцца ў затрыманьні і скарыстаньні на мясцовыя патрэбы малочных прадуктаў (масла, сыр і малако). Гэтыя хваравітыя зьявішчы неабходна як мага хутчэй выжыць, бо яны шкодна адбіваюцца на выкананьні пляну масла-сыразагатовак.

Кепска абстаіць справа і з кантрактацыяй заводзкага маладняка (плян гадавы выкананы на 44%). Тут павінна быць пашырана работа як з боку малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі, так і райвыканкомаў. На самацёк разьлічваць нельга.

Бясспрэчна і тое, што калгас «Дарынаўка», як прыгарадная малочная фэрма, павінен зьявіцца асноўнаю базаю ў задавальненьні працоўных гораду Воршы цэльным малаком; ня гледзячы на гэта, стада калгасу знаходзіцца без належнага догляду і зьяўляецца малапрадукцыйным (сярэдні ўдой каровы —5-6 літраў). Трэба прыняць усе магчымыя захады да таго, каб калгас «Дарынаўка» зьяўляўся рэнтабельнаю гаспадаркаю.

Прафсаюзныя арганізацыі акругі амаль што ніякага ўдзелу ня прымаюць у справе арганізацыі малочных гаспадарак. Апошнія спадзяюцца на «нябесную манну».

Максімчук

# Аб працы груп батрацтва і беднаты і кіраўніцтве імі

Аб групах беднаты на вёсцы шмат гаварылі і пісалі. Як жа абстаіць справа з групамі батрацтва і беднаты ў цяперашні час? Ці палепшылася іх работа, ці дапамагаюць яны праводзіць правільную лінію партыі на вёсцы?

Трэба адзначыць, што ў галіне работы з групамі батрацтва і беднаты яшчэ шмат чаго ня зроблена. Ня гледзячы на шэраг дырэктыў партыі і ўказаньняў Белкаапсаюзу, гэтая праца не палепшылася. Спаж. таварыствы лічаць гэту працу другараднай і ня імкнуцца палепшыць яе, кіраўнікі груп батрацтва і беднаты не ўдзяляюць асаблівай увагі гэтай працы.

Для прыкладу возьмем такія спаж. таварыствы, як Талькаўскае, Жлобінскае, Асіпавіцкае, Пухавіцкае, і паглядзім, як яны праводзілі гэтую працу.

За ўвесь час, як яны складалі сьпісы груп батрацтва і беднаты, ні разу груп не склікалі. На запытаньне, чым тлумачыцца гэта, яны адказваюць, што ім няма калі займацца такой працай.

Пухавіцкае спажтаварыства лічыць за групу батрацтва і беднаты сьпіс упаўнаважаных, а між тым у яго з 39 асоб уваходзяць 14 чалавек заможных сялян, якія плоцяць падатку да 40 рублёў.

Талькаўскае спажтаварыства склала сьпіс групы батрацтва і беднаты 31/V-30 году, але ні разу ня склікала сходу групы. Каапэраваньне адбывалася бяз удзелу батрацка-бядняцкай масы, у выніку было тое, што за кошт фонду каапэраваньня беднаты каапэравалі заможных сялян, якія плоцяць падатку да 50 рублёў. Хаця каапэраваньне тут дасягнула 124,3%, вялікая частка батрацтва і беднаты

засталася некаапэраванай (калгас «Энэргія» і інш.). Культвыхаваўчай працы таксама не праводзіцца.

Асіпавіцкая група батрацтва і беднаты таксама ні разу ня склікалася, і праца сярод яе не праводзілася. На запытаньне ў старшыні тав. Мойсака, чым гэта тлумачыцца, ён адказаў: «мне няма калі з вамі гаварыць і праводзіць гэту працу».

Жлобінскае спажтаварыства ня лепш вядзе працу, а Самахвалавіцкае спаж. таварыства зусім ня склала сьпісаў груп батрацтва і беднаты, што зьяўляецца парушэньнем пастановы партыі і ўказаньняў Белкаапсаюзу.

У далейшым партыйным арганізацыям трэба прыняць гэта пад увагу і паклапаціцца, каб праца з групамі батрацтва і беднаты зьяўлялася асноўнай працай у спажкаапэрацыі на мясцох. Старшыням праўленьня патрэбна ўзяцца за гэту працу і паставіць яе на належную вышыню, бо ігнараваньне гэтай працы зьяўляецца ігнараваньнем пастановы партыі.

**Ал. Ліхадзіеўскі**

# На пабудове

*(Ад нашага карэспандэнта)*

Зараз Нёманскае будаўніцтва распачало буйную пабудову заводу па дрэваапрацоўцы на рэчцы Нёмне, каля вёскі Замосьце (Узьдзенскі раён). Завод у 1930-31 годзе будзе скончаны. Да заводу пракладзена чыгунка на адлегласьці 16 клм. Працуе зараз на пабудове каля 500 асоб. Тут працуюць ня толькі рабочыя мясцовыя, а нават і з другіх акруг. Для лепшага забесьпячэньня рабочых эканамічна Магільнянскае сп. т. «Серп і Молат» на месцы пабудовы адчыніла сталоўку, у якой усе працуючыя забясьпечаны абедамі, сьнеданьнем і вячэраю. Пры сталоўцы ёсьць крама сп. т-ва, дзе можна купіць усё з дробных прадуктаў.

Адно трэба сказаць, што ў сталоўцы пануе антысанітарнае становішча: цэлымі днямі валяюцца галовы селядцоў пад сталамі. Тэхпрацаўніцы «забываюцца» сьціраць сталы. Яшчэ наглядаецца адно нездавальненьне сярод працуючых— на афіцыянтак, што яны ня ўсім роўна даюць абеды. Калі прыходзіць з служачых хто, дык яму абед лепшы і больш (а каштуе аднолькава). На гэта ніхто не зьвяртае ўвагі. Каапэрацыя таксама ня цікавіцца гэтым.

Праца рабачкому сярод рабочых ніякай ня відаць, бо ён знаходзіцца за 15 клм. ад месца пабудовы, у м. Узьдзе.

Ад рабачкому ёсьць упаўнаважаныя сярод рабочых, але тыя зусім забыліся пра працу. Прадстаўнікі прыяжджаюць раз у месяц.

Камсамольскай ячэйкі няма, а камсамольцы, якія прыходзяць на працу з другіх ячэек, самі паказваюць яшчэ горшы прыклад у працы, чым беспартыйныя. Ніхто аб іх у ячэйцы ня ведае.

Па сацыяльнаму становішчу на пабудове вельмі мала батракоў, членаў саюзу і сялян-беднякоў, а ў большай частцы сяляне з заможнай часткі, з якіх некаторыя плоцяць каля 100 руб падатку. Тлумачыцца гэта тым, што рабачком не вядзе працы па ўкамплектаваньню рабочых з батракоў і сялян-беднякоў.

Наглядаюцца такія выпадкі: у штат рабочых прымаюць такіх асоб, што іх у 1929 г. параскулачвалі, а яны працуюць на пабудове заводу і інтэрнатаў для рабочых.

працы ў гэтай галіне з боку рабачкому ня відаць, бо ён гэтым зусім ня цікавіцца.

Калі загадчык Лесбелу зьвярнуўся раз да працуючых, каб апошнія пашлі дапамагчы калгасу ў уборачнай кампаніі, дык адзін выкрыкнуў: «У меня на два гады свайго хлеба хопіць, а я не пайду памагаць калгасу». А другі: «Што мы пойдзем працаваць на сваю зямлю» Гэткія гукі несьліся з кучы людзей, якія ўжо па году працуюць на пабудове заводу. Пашлі толькі працаваць камсамольцы і некаторая частка рабочых з батракоў і сялян-беднякоў.

На далей трэба рабачкому, адміністрацыі, камсамольцам і арцельным старастам у хуткім часе гэтыя недахопы выправіць.

Л. А

## Крамай здаволены

*(вёска Прусінава, Узьдзенскага раёну)*

У ліпені месяцы гэтага году ў нашай вёсцы адчынілася крама Магільнянскага спаж. таварыства, адчыненьне якой праектавалася досыць даўно. Крама абслугоўвае вёску Прусінава, пасёлкі Прусінава, Ніву, Пухаўшчыну і Запрудзьдзе.

Раней, калі каму трэба было купіць пачку запалак ці фунт газы, дык неабходна было ехаць ці ісьці аж у Магільна за 7 вёрст.

Сяляне адчыненьнем крамы вельмі здаволены. Раней трохі былі непарадкі ў краме, за што сяляне крыўдзіліся—гэта пры разьмеркаваньні дэфіцітных тавараў. Зараз, каб было больш правільнае разьмеркаваньне, на апошнім сходзе абраны ўпаўнаважаныя, якія і разьмярокоўваюць тавар паміж спажыўцамі.

— Цяпер,—кажуць сяляне,—будзе правільна, ніякае крыўды на загадчыка крамай ня будзе.

Пасьля рэарганізацыі спаж. сыстэмы крама перайшла ў веданьне Узьдзенскага райспажтаварыства.

М. М

## З гароднінай дрэнна

Савецкія і партыйныя арганізацыі выдалі цэлы шэраг пастаноў аб тым, каб каапэрацыйныя арганізацыі неадкладна вялі працу па загатоўцы гародніны.

Ня ўсе спажыў. таварыствы сумленна адносяцца да гэтых пастаноў. Капаткевіцкае спажыв. таварыства ніякай працы ў напрамку загатоўкі плодагародніны не вядзе. У мястэчку Капаткевічы гандлюе гароднінай толькі прыватнік. Спажыв. таварыства на гэта глядзіць зусім спакойна. Яно ня толькі не клапоціцца аб забесьпячэньні гароднінай гораду, але нават не забяспечыла гароднінай сваё мястэчка. Каб дастаць кілё туркоў, патрэбна зварочвацца да прыватніка: у каапэрацыі гэтага няма.

Ня шкодзіла-б Капаткевіцкаму спажыв. таварыству хоць позна, але прачнуцца і што-небудзь зрабіць у напрамку загатоўкі плодагародніны.

# Каапхроніка

◆ У пачатку верасьня месяца ў гор. Менску адбылася Ўсесаюзная дасьледчая нарада па сьвінагадоўлі. Дырэктар беларускай Цэнтральнай навуковай дасьледчай станцыі тав. Журык высьветліў праграму сьвінагадоўлі. На нарадзе прысутнічалі навуковыя працаўнікі ўсіх рэспублік СССР. Нарада ставіла сваёй мэтай узьняць буйную сьвінагадоўчую гаспадарку.

◆ 2-га жніўня СНК БССР заслухаў інфармацыю Наркамгандлю аб забесьпячэньні рабочага насельніцтва харчовымі прадуктамі. СНК адзначыў зусім недапушчальную нядбайнасьць загатоўчых каапэрацыйных арганізацый у справе ажыцьцяўленьня пастаноў вышэйшых органаў наконт паляпшаньня рабочага забесьпячэньня. Усім загатоўчым арганізацыям прапанавана зараз жа ўзмацніць загатоўку прадуктаў для рабочых цэнтраў.

◆ МЦРК дагаварыўся з Белмалгадсаюзам аб дастаўцы ў саўгасы МЦРК 500 галоў рагатай жывёлы.

◆ У саўгасах МЦРК пабудаваны новыя хлявы на 150 галоў жывёлы. Мяркуецца да канца бюджэтнага году пабудаваць такія самыя хлявы яшчэ на 800 галоў.

◆ У сучасны момант МЦРК разгарнуў шырокую працу па будаўніцтву парнікоў. Падрыхтавана 500 рам для парнікоў. Мяркуецца да зімы падрыхтаваць 2.500 рам для парнікоў. Рамантуюцца дзьве цяпліцы для вырошчваньня гароднiны на працягу зімы. Гароды МЦРК пашыраюцца да 700 гэктараў.

◆ Прэзыдыум ЦСПСБ склаў спэцыяльную камісію пры ЦСПСБ для праверкі ходу загатовак і хаваньня плода-гароднiны. Для гэтага арганізаваны дзьве рабочыя брыгады.

◆ З 5—9 верасьня ў Вярхоўным Судзе БССР разглядалася справа працаўнікоў МЦРК—Бужына, Бярозкіна і Юдовіча, а таксама працаўнікоў Белкаапсаюзу—Вальфсона і Гордзіна, якія абвінавачваліся ў зрыве рабочага забесьпячэньня. Разгледзеўшы гэту справу, Вярхоўны Суд БССР вынёс наступны прысуд:

Суд прызнаў, што дзеяньні абвінавачаных прывялі да прарыву ў забясьпечаньні рабочых плода-гароднінай. Суд адзначыў, што гэта злачынства асабліва небясьпечна ў момант напружанага змаганьня рабочае клясы за выкананьне прамфінпляну, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Друк своечасова сыгналізаваў аб прарыве, але работнікі МЦРК ніякіх мер ня прымалі да яго ліквідацыі.

Падсудны Бужын прызнаны вінаватым у тым, што ён сьвядома шкодзіў справе рабочага забесьпячэньня, і прысуджаны па 69 арт. К. К. на 7 год зьняволеньня ў канцэнтрацыйным лягеры з пазбаўленьнем правоў на 5 год пасьля адбыцьця пакараньня.

Падсудны Бярозкін прызнаны вінаватым у нядбайных адносінах да справы рабочага забесьпячэньня і прысуджаны да 3½ год зьняволеньня.

Падсудны Юдовіч прысуджаны на 1½ гады зьняволеньня ўмоўна.

Працаўнікі Белкаапсаюзу—Вальфсон і Гордзін судом апраўданы.

◆ За апошні час па гарадох Беларусі пачало выяўляцца, што шмат заборных кніжак ЦРК знаходзіцца ў руках лішэнцаў-спэкулянтаў. Паводле прыблізных падлікаў, у Менску, Віцебску і Гомелі 3000 заборных кніжак знаходзяцца ў руках спэкулянтаў і непрацоўнага элемэнту.

У сувязі з гэтым з 10-га верасьня пачалася перарэгістрацыя каапэрацыйных заборных кніжак. Перарэгістрацыя будзе праводзіцца па жактах, мясцкомах і скончыцца прыблізна 15 кастрычніка.

◆ Да гэтага часу каапэрацыйныя арганізацыі не наладзілі як сьлед добрай выпячкі хлеба. Часта ў хлебе можна знайсьці цьвік, трэску і іншае. Для гэтага ў г. Менску зараз праводзіцца месячнік паляпшэньня якасьці хлеба. Складзены спэцыяльны штаб, які пры дапамозе шырокіх мас будзе выяўляць усе недахопы ў выпечцы хлеба.

◆ 1-га кастрычніка будзе пушчана Асінбудаўская электрастанцыя. Станцыя будзе даваць электраэнэргію для бліжэйшых гарадоў, фабрык і заводаў.

◆ СНКБ запрапанаваў 12 гарсаветам прыняць удзел у фінансаваньні прыгарадных гаспадарак спажывецкай каапэрацыі на агульную суму 125.000 руб. Менскі гарсавет павінен адпусьціць 28.000 руб., Гомельскі—18.000, Віцебскі—18.000 р. і г. д.

◆ Прэзыдыум гарсавету запрапанаваў МЦРК безадкладна павялічыць свой транспарт да 50 фурманак для дастаўкі дроў на дом пайшчыкам ЦРК.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Сяргей КУДЗІНАЎ. «Калгасы і асеньняя засеўная кампанія».** БДВ. Менск. 1930 г. Стар. 68, цана 25 кап.

Нельга сказаць, каб у нас добра была пастаўлена справа з выданьнем тае ці іншай літаратуры, асабліва сельскагаспадарчай. Літаратура, асабліва кампанейская, часта паступае на рынак тады, калі кампанія ў самым разгары або падыходзіць к канцу. Такія зьявішчы, падкрэсьліваем, наглядаюцца ў большасьці сельскагаспадарчых кампаній. Несумляваючыся, трэба сказаць: тэмпы працы БДВ ідуць у разрэз з агульнымі кампаніямі сацбудаўніцтва.

Перад намі кніжка Кудзінава, афяраваная асеньняй пасеўнай кампаніі. У нашых кнігарнях яе магчыма было ўбачыць не раней, як 22-23 жніўня, у той час, як пасеўная кампанія, падрыхтоўка да асеньняй сяўбы падыходзіць амаль к канцу. Ясна, што такое зьявішча зьяўляецца недапушчальным і падобныя мяжуюцца з простым праступкам.

З некаторым спазьненьнем, але ўсё-ж кніжку Кудзінава трэба раіць нашаму чытачу, як самую лепшую з тых, што ёсьць на нашым кніжным рынку па пытаньнях асеньняй сяўбы. Аўтар здолеў на 68 старонках (4¼ друкарск. аркушы) ахапіць усе важнейшыя захады па правядзеньні кампаніі.

Нашы тэмпы і мэтады работы патрабуюць адпаведнай арганізацыі яе, падліку ўсіх магчымасьцяй. Кніжка асьвятляе наступныя важнейшыя пытаньні: асноўныя задачы асеньняй пасеўнай кампаніі 1930 г., узмацненьне асноў калгаснага руху ў БССР, работу па вытворчаму каапэраваньню індывідуальных сялянскіх гаспадарак, мерапрыемствы, што забясьпечваюць падвышэньне ўраджайнасьці і пашырэньне засеўнай плошчы, і цэлы шэраг іншых практычных пытаньняў.

Усе пытаньні аўтар закранае не ў агульным парадку, а так, як іх трэба вырашаць у практыцы работы.

Кніжка напісана надзвычайна папулярна і таму зьяўляецца даступнай кожнаму, нават малапісьменнаму чытачу. Нашы с.-г. арганізацыі павінны набыць кніжку Кудзінава.

**М. Сейбіт.**

---

**КІПРЫЯНЕЦ К. «Асеньні выраб глебы пад яравыя».** БДВ., Менск. 1930 г. Стар. 70, цана 15 кап.

Наш друк вельмі шмат піша аб плянах пяцігодкі. На старонках газэт, часопісаў, а таксама ў спэцыяльных малых і вялікіх кніжках можна сустрэць багата матар'ялаў па асобных галінах пяцігадовага будаўніцтва. Шырокія пласты працоўных павінны быць самым падрабязным чынам інфармаваны, азнаёмлены з задачамі, магчымасьцямі і цяжкасьцямі сацыялістычнага будаўніцтва, бо самі-ж працоўныя на практыцы, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, заўзята, напружана, тэмпамі сацспаборніцтва і ўдарніцтва ператвараюць у жыцьцё генэральны пяцігадовы плян гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Але разам з гэтым нельга не зазначыць на факт недахопу адпаведных папулярна-масавых кніжак, дзе канкрэтна вырашалася-б кожная з праблем. Недахоп такой літаратуры асабліва адчуваецца ў галіне с. г.

Аўтар брашуры: «Асеньні выраб глебы пад яравыя», як відаць, на працягу ўсяе кніжкі імкнуўся паказаць ня толькі вынікі, эфэкт ад такога важнага мерапрыемства, як асеньняя апрацоўка глебы пад яравыя, але і з матар'ялам у руках паказаў, якімі сродкамі працаваць, якая канкрэтная выгада ад асеньняй апрацоўкі глебы пад ярыну. Селяніну цікава ведаць ня толькі тэхніку і парадак мерапрыемстваў, але і тое, які можна атрымаць практычны вынік. Якраз вось аўтар у дастатковай меры ўвязаў гэтыя пытаньні.

Кніжку Кіпрыянца К. трэба раіць нашаму чытачу як надзвычайна каштоўную ў сельскай гаспадарцы.

Асеньняя апрацоўка глебы пад ярыну павінна зрабіцца масавым мерапрыемствам як калгасаў, так і аднаасабовых гаспадарак.

**М. Норыч.**

**Эдвард ШЫПЭРКА.—«Што зрабіла менская балотная станцыя для ўздыму сельскае гаспадаркі БССР».** Менск, Белдзяржвыдавецтва. 1930 г. Стар. 60. цана 25 кап.

Кніжка Эдварда Шыпэркі—дакумант, які навочна паказвае на цесную сувязь навуковых дасягненьняў Дасьледчай цэнтральнай балотнай станцыі з задачамі гаспадарчага будаўніцтва БССР.

БССР мае 2.660.000 га балот і забалочаных абшараў. Гэта складае 21,2 процанты ад агульнай тэрыторыі Савецкай Беларусі, або 58 процантаў плошчы ральлі, покаці.

Паводле пяцігодкі ўрад асыгноўвае 50.000.000 руб., ці па 10.000.000 руб. у год на правядзеньне мэліарацыйных работ. Ясна, што бяз добра наладжанай навукова-дасьледчай справы зусім нельга і думаць аб магчымасьці выкананьня вялізарнага пляну мэліарацыйных работ.

Задача аўтара кніжкі была: а) паказаць нашай савецкай грамадзкасьці, як савецкая навука і адно з яе зьвеньняў—балотна-дасьледчая станцыя—змагаюцца каб ператварыць мільёны га балотаў у квітнеючыя палі; б) паказаць савецкі грамадзкасьці агрономістыя магчымасьці, закладзеныя ў нашых балотах, якія магчыма выкарыстаць для нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Толькі ў такім напрамку можна падыходзіць да ацэнкі работы аўтара. Трэба сказаць, аўтар з гэтымі задачамі справіўся. Кніжка ў дастатковай меры (наколькі дазваляў размер) высьвятляе галоўныя пытаньні. Чытач зможа атрымаць больш-менш поўны малюнак работы дасьледчай станцыі ў справе культуры балотаў, атрымаць малюнак нашых вялікіх работ у галіне мэліарацыі, якія праводзяцца на базе вялікіх дасягненьняў. Кніжка добра ілюстравана фотаздымкамі, а таксама і дыяграмамі (больш 20 малюнкаў).

Адна загана—выдавецтву трэ' было выдаць кніжку на лепшай паперы, бо на тэткай паперы клішэ атрымаліся ня зусім добрыя.

**О. Зыбніч.**

---

**Б. ДАВЫДОВ. «Как довести план хлебозаготовок до села?»** Выданьне Госторгиздата». Масква. 1930 г., стар. 32, цана 7 кап. Тыраж 100.000 экз.

Калі хлебазагатоўчая кампанія разгарнулася і разгортваецца ва ўсю шырыню, зусім лішнім будзе даводзіць патрэбнасьць такое літаратуры, якая дапамагае ў такой важнай справе

Аднэй з такіх кніжак зьяўляецца рэцэнзуемая сёньня намі брашурка Б. Давыдава.

Аўтар, падзяліўшы сваю кніжачку на цэлы шэраг разьдзелаў, у папулярнай форме растлумачвае ўсе тыя цяжкасьці, якія могуць спаткацца ў часе хлебазагатоўчай кампаніі. Ён дае цэлы шэраг парад, разглядае выкананьне хлебазагатовак для кожнае катэгорыі сялянства ў паасобку.

Па свайму размеру і ахопу тэмы кніжка напісана досыць удала, зразумела. Яе варта раіць кожнай арганізацыі, кожнаму, які працуе на хлебазагатоўчым фронце.

**Я. К—а.**

---

**П. ПАТРИК. «Коллективное и единоличное птицеводство».** Выданьне «Сельхозгиза», 1930 г. Цана 12 кап. Тыраж 60.000 экз., стар 56.

«Курыца ня птушка» існавала некалькі і цяпер яшчэ існуе ў некаторых прыказках, а таму і адносіліся да яе, як папала. А між іншым, курыца можа даць вялікі прыбытак у гаспадарцы. Адна вось бяда, што ў нашай гаспадарцы курыца не даглядаецца, як належыць.

Разглядаючы карысьць птушкаводзтва, аўтар з лічбамі ў руках больш усяго даводзіць выгаднасьць калектыўнае курынае гаспадаркі.

Зусім зразумела, адзін інкубатар (прылада для выседжваньня куранят з яец) можа прапусьціць за вясну 25.200 яец, зьмяніўшы тры разы, а каб выседжваць курамі, дык патрэбна на гэтае 2000 курэй. Гэта ўсё толькі магчыма ў буйнай гаспадарцы.

У кніжцы даецца досыць падрабязнае апісаньне, як карміць куранят, калі яны выйдуць, як захаваць ад хваробы, лячыць, як іх захоўваць на зіму ў куратніку і цэлы шэраг іншых парад.

Таксама ёсьць разьдзелы, якой пароды бываюць куры і якія з іх больш выгадныя. Аўтар усе развжаньні падмацоўвае шэрагам фактаў.

Кніжачка па сваёй зразумеласьці зьяўляецца каштоўнаю для кожнага калгасьніка, для кожнага гаспадара-індывідуальніка. У ёй шмат чаго знойдзе спэцыяліст па птушкаводзтву.

**К. С—к.**

---

*Рэдакцыйная калегія—Рэдактар* **Гінзбург**
*Выдавец*—**Белкаапсаюз і Белсампрамсаюз**